# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1970

Лістапад-Сьнежань

Год XVIII

№ 6 (123)

ЗЬМЕСТ:

КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ БІСКУПА Ч. СІПОВІЧА • АНЁЛЫ У БЭТЛЕЕМЕ • НА СЬВЯТОЙ ЗЯМЛІ • МАЛІТВЫ ПРЫ СЬВ. ЛІТУРГІІ • ЖАНЧЫНЫ НАСТАЎНІЦАМІ ЦАРКВЫ • 40 МУЧАНІКАЎ У АНГЛІІ • ПЛЯТОН — ДЫЯЛЁГІ • З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ • З НАШАЕ МІНУЎШЧЫНЫ • З ЛІСТОЎ У РЭДАКЦЫЮ • «АХВОТА ГОРШ НЯВОЛІ» • СЭРЦА • СУЧАСНЫЯ ЖАРТЫ • НОВАЯ КНІГА АБ СКАРЫНЕ.

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVIII November—December № 6 (123)**

**1970**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVIII ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ № 6 (123)


# Каляднае Пасланьне Я. Д. Біскупа Чэслава Сіповіча

ДАРАГІЯ БРАТЫ І СЁСТРЫ!

З радасьцяй сьвяткуем КАЛЯДЫ — Нарадзіны ХРЫСТА. Перанясёмся думкай у Палестыну ў Бэтлеем, там-бо блізка 2000 гадоў таму назад збыліся прароцтвы, там прыйшоў Ісус Хрыстос на гэты сьвет. Гэта ёсьць гістарычнае здарэньне, аб якім нас дакладна паінфармавалі ягоныя вучні, якія Яго добра знaлі і якія ня усумніліся сваё сьведчаньне пацьвердзіць уласным жыцьцём.

Хрыстос у аднэй асобе быў Богам і Чалавекам, гэта значыць, меў усё тое, што свомае Богу і чалавеку.

Тут варта нам разважыць такія думкі:

Хрыстос сапраўды быў чалавекам. Эвангелісты Матэй і Лука падаюць ягоны радавод, паводле якога Хрыстос належыць да слаўнага роду цара Давіда. Родзіцца ад Дзевы Марыі ў Бэтлееме, уцякае з Язэпам і Марыяй ад гневу цара Ірада ў Егіпет, пасьля жыве і працуе да 30 гадоў у Назарэце.

Перад апостальскай дзейнасьцю ў пустыні 40 дзён у пасьце і малітве. Пазьней гуртуе ля Сябе вучняў і разам з імі праходзіць Палестыну, усім дабро дзеючы і навучаючы.

Як кожны з людзей Хрыстос есьць і сьпіць, бывае змучаны, пралівае пот і плача. —

Часта бароніць бедных, двойчы цудоўна корміць галодных на пустыні, спачувае грэшнікам, заклікаючы іх да пакуты, ганіць і стыдзіць гордых фарызэяў.

Хрыстос навучае народ проста і ясна, ужывае параўнаньні і дзіўнае прыгожасьці прыповесьці. Цяжка перажывае здраду Юды Іскарыёта, несправядлівы прысуд, бічаваньне і зьдзек, але мужна і з годнасьцю прыймае сьмерць на крыжы. І ў апошніх словах дае з крыжа глыбокую навуку.

Навука Хрыста з грунту перамяняе сьветагляд людзей добрай волі, выходзіць з ягоных вуснаў у простай, зразумелай форме.

Для прыкладу паўторым, ведамыя нам, загады і думкі з навучаньня на гарэ:

— Шчасьлівыя ўбогія духам...
Плачучыя...
Ціхія...
Галодныя і прагнучыя праўды...
Міласэрныя...
Чыстыя сэрцам...
Міратворцы...
Тыя, што церпяць прасьлед за праўду,
— ...бо яны будуць пацешаны,
...будуць памілаваныя,
...убачуць Бога,
...будуць названыя Божымі сынамі,
...іх ёсьць Нябеснае Валадарства! —

І закончыў Хрыстос сваё навучаньне: — Шчасьлівыя вы, калі будуць над вамі зьдзекавацца і прасьледаваць вас і ўсяляк несправядліва абгаварываць вас за Мяне. Радуйцеся і цешцеся, бо вялікая нагарода вашая на небе, бо так гналі пракакаў, якія былі раней за вас. (Матэй 5, 3-12).

О, сапраўды, Хрыстовая навука ёсьць алівай на нашыя раны, уцехай на нашыя цярпеньні і ўзмацняе нас у змаганьні за штодзённы хлеб!

Хрыстос аднак быў ня толькі ідэальным чалавекам, — Ён быў БОГАМ! Таму мы ня толькі падзіўляем Хрыста, але і молімся да ЯГО.

Аніякі чалавек, нават самы магутны, ня можа рабіць цудаў, вылучна сваею сілай, якія тварыў Хрыстос, — ня можа ўскрашаць памёршых і ўскрасіць сябе самога. —

Значыць, Хрыстос ня толькі сваей навукай разьвеяў цемру і сваею сьмерцю адкупіў увесь сьвет ад грахоў, але сваім ускрашэньнем перамог сьмерць.

Тут навязваецца пытаньне: Калі Хрыстос быў Усемагутным, дык чаму на сьвеце гэтулькі бедаў: і голад, і войны, і крыўды?

Адказ на гэта адзіны: Хрыстос зрабіў для людзей усё магчымае, каб маглі асягнуць вечнае шчасьце, а нават і дачаснае, але людзі ня ўсе і не аднолькава прызнаюць Хрыста і на-

сьледуюць Яго — таму, што ім Хрыстовая навука . . . нявыгодная!

Бо прыняць Хрыста — гэта — прыняць ягоную навуку — пакору, ціхасьць, справядлівасьць, ахвярнасьць; значыць, любіць Бога з цэлага сэрца і з усей душы, а бліжняга, як самога сябе. Значыць, не гнацца за багацьцем, за ўладай і дагаджаньнем грэшным свайму целу і душы!

Праўда, Бог, што стварыў сьвет і ўзбагаціў яго ўсялякім дабром, не шкадуе нам ані грошаў, ані пажыўленьня, ані нават уцехі дачаснай. Але бяда толькі ў тым, што чалавек часта ня мае меры: калі мае крыху грошаў, дык жадае ўсё больш! У ядзе і ў напітках так лёгка пераходзіць разумную меру і парадак.

А Хрыстос кажа: Шукайце найперш Божага Валадарства, а ўсё іншае будзе вам прыложана.

О, каб мы мелі адвагу найперш і перадусім шукаць Хрыста, як Яго шукалі магі-мудрацы Ўсходу і пастухі Бэтлеему, — тады мы былі-б шчасьлівейшыя! Тады ў нас зьменшыўся-б лік турмаў, не разводзіліся-б жанатыя, не плакалі-б пакінутыя дзеці і мы не баяліся-б войнаў і канца сьвету!

У дзень сьвятых Калядаў пойдзем і мы за бэтлеемскай зоркай, каб знайсьці Хрыста, каб пазнаць Яго і палюбіць Яго на заўсёды!

Ч. СІПОВІЧ
БІСКУП тыт. МАРЫЯМІТАНСКІ
Ап. Візытатар Беларусаў

Лёндан, Каляды 1970.

---

*а. Я. Г.*

# Анёлы ў Бэтлееме

ХРЫСТОС на сьвет як нарадзіўся .
Дык анёл пастушком зьявіўся:
Яны былі — ў сваей нядолі —
У цёмнай ночы ў чыстым полі.
Авечак пільна сьцераглі:
Адзін не спаў, другія прыляглі.

Той бачыць — яснасьць з неба сходзіць,
А гэта анёл к' ім прыходзіць,
Дык тут усе, што моцна спалі,
Адразу ўскочылі ды ўсталі!

Барджэй у Бэтлеем зьбірайцесь:
Ім кажа анёл: — Ня пужайцесь!
Там паміж скалаў у пячоры,
Якраз, дзе расхіліліс горы,
ХРЫСТОС і Спас вам нарадзіўся,
Як манна з неба, так спусьціўся. —

Ён — Мэсыяш, што вы чакалі —
Яго-ж прарокі прадвяшчалі. —
Я навіну сказаў вам гэту,
Што радасьць будзе ўсяму сьвету.

А вы сьпяшайце пакланіцца
І ў шчасьці Богу памаліцца! —

І, як стаяў паміж людзей,
Той анёл зьнік у іх з вачэй . . .

*

Вось пастухі, як разважалі,
Адзін другому так казалі:

— Ідзём хутчэй мы ўсе ў дарогу —
Пакінем стада ў рукі Богу!
Авечкі ў нас не прападуць,
Як іх анёлы сьцерагуць . . . —

І так ахвочы, як былі,
Пабеглі дружна дый пашлі . . .

А там і ўбачылі Дзіцятка:
Ляжыць на сенцы, пры Ім — Матка. —
Яна малітвы адмаўляе,
Язэп-жа псальмы ім сьпявае.

А пастухі прышлі з ахвярай
І прыступаюць парай — парай:
Даюць паклон найперш Дзіцятку,
Тады вітаюць Яго Матку;
Дзіцятка цалавалі ў ножкі,
Ківалі і Язэпу трошкі . . .

Казалі: — Анёл, як спусьціўся,
Нам сьветлы, ясны аб'явіўся,
Казаў — Хрыста шукаць нам трэба,
А яснасьць з Ім ляцела ў неба . . . —

*

Тут пастухі, падняўшы голаў,
Убачылі з мільён анёлаў,
Што славяць «Бога на вышынах,
А мір людзям, што на нізінах!»

І песьня льецца, як ракою,
Каб сьвет прыйшоў да супакою:

Хрыста і Спаса так вітаюць —
Людзтво да згоды заклікаюць,
Каб над усё любілі Бога,
А бліжніх, як сябе самога!

А пастухі ў той цёмнай ночы
На яснасьць труць і жмураць вочы:
Хацелі тут навек астацца,
Дый трэ' да стада ім вяртацца!

Вось неба ўраз і зачынілась —
Скрозь цемната ізноў зрабілась.
А ў пастушкоў душа і цела
Тут назаўсёды прасьвятлела!...

Усім расказвалі аб цудзе. —
Ды сьвет — заняты — ўсё забудзе:
Так у клапотах, як у лесе,
У працы, ў гандлі, ў інтарэсе —
Штодзень мы мучымся і блудзім. —
Што-ж з нашым бедным сьветам будзе?

*

Паддай Хрысту сваё сумленьне —
Бяжы шпарчэй да адраджэньня
І блудную пакінь дарогу,
А Божым Шляхам сьпяшы к' Богу!...

(Глядзі Эвангелле паводле Лукі — Раздзел 2, 8—20).

---

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

*(Працяг)*

## IX

## КРЫНІЦА ДУХОВАГА АЧЫШЧЭНЬНЯ І ЗБАВЕНЬНЯ

*«Внидем в селеніе Его, поклонимся на место, идеже стоясте нозе Его».*

З сьв. Пісьма

Сьвяты горад Ерусалім ведамы яшчэ з старажытных часоў як Уру-Салім, горад Міру. Пад гэтым назовам яго згадваюць ягіпецкія і бабілёнскія пісьмёны. Ім доўга ўладалі дзікія плямёны Іевусеяў, а за тысячу гадоў да Нараджаньня Хрыстовага там запанавалі іудэі. Давід здабыў гару Сіён і ператварыў яе ў моцную крепасьць супраць іевусеяў з усходу. Туды ж Давід перанёс быў тагачасную народную сьвятыню — каўчэг Запавету. З таго часу Сіён стаў Сьвятою Гарою. На Сіёне Давід і быў пахаваны. Цяпер ягоная магіла апынулася з другога боку мяжы паміж Іарданіяй і Ізраілем. Ерусалім дасягнуў асаблівага росквіту пры цары Саламоне. На бліжэйшай да Сіёну гары Морыя быў пабудаваны Храм і Палац. Даліну паміж імі засыпалі і новы квартал абнесьлі высокай сьцяной. Пазьней, у восьмым веку да Нараджэньня Хрыстовага цар Іудзейскі Іёфан прылучыў да гораду і абнёс сьцяной прадмесьце вакол узвышша Офель. У тым жа веку цар Езекія, баючыся аблогі з боку бабілёнцаў, адвёў у горад воды крыніцы Гіхона і пабудаваў для іх у цэнтры гораду вялікі басейн, вядомы да сяньня пад ягоным імем. З мэтай бясьпекі той жа цар пабудаваў на поўнач ад Сіёну сьцяну і Рыбную Браму. Былі ўзьнятыя моцныя вежы Хананаіла і Біра, будучая вежа Антонія, дзе зьмяшчалася ў Рымскія часы і прэторыя Пілата. Крэпасьць Давіда пасьля 170 году да Нараджэньня Хрыстовага была пашыраная аж да ўзвышша Акра, адкуль Маттафія павёў ізраільскі народ паўстаньнем супраць тырана Антыёха. Прадмесьце Гарэб з Галгофаю і Гробам Госпада і суседняе ўзвышша Везефа ўвайшлі ў межы гораду адно ў 43-м годзе пасьля Народжаньня Хрыста. За паўстаньне супраць рымлянаў пры імпэратары Веспасіяне ў 70-м годзе Храм быў спалены, а сам горад дашчэнту быў зруйнаваны ў 133-м годзе. Паміж чацьвертым і сёмым вякамі ў Ерусаліме панавала Хрысьціянства. Горад рос і забудоўваўся, хрысьціянскія сьвятыні аднаўляліся, забудоўваліся Храмамі, пакуль Ерусалім не захапілі і не зруйнавалі пэрсы пры цары Хозрої. А праз 30 гадоў яго захапіў арабскі халіф Омар, які, праўда, не чапаў хрысьціянскіх сьвятыняў. Затое адзін з наступных халіфаў — Хакім, уявіўшы сябе Богам на зямлі, загадаў разбурыць усе хрысьціянскія храмы, спаліць Храм Гасподняга Гробу, зруйнаваць Галгофу і шмат іншых месцаў, дарагіх хрысьціянскім сэрцам. Гэта і выклікала т. зв. Крыжовыя паходы з Эўропы. Крыжаносцы валодалі Палестынай 90 гадоў, пакуль іх ня выгнаў адтуль Саладзін. Іхнія пабудовы, акрамя Сьвятога Гробу, былі панішчаныя. А ў 1517 годзе Палестыну заха-

ціли Оттаманскія туркі і панавалі там аж 400 гадоў. Хрысьціянскія сьвятыні пацярпелі ў часе салдацкіх пастояў у Першую Сусьветную вайну. Ад 1917 г. да 1948 году Палестына з сьвятымі месцамі знаходзілася пад аховай ангельскага мандату. Пазьней была падзеленая паміж Ізраілям і Іарданіяй, частка досталася Ягіпту (Газа). Ерусалім таксама быў падзелены: найбольшая, мадэрная частка яго, адышла да Ізраіля. Але стары горад, у якім знаходзіцца бальшыня важнейшых святых месцаў Ерусаліму, належыць арабам, як ім жа належыць бальшыня і іншых, за межамі гораду, Евангельскіх месцаў. У межах Ізраіля знаходзіліся Галілейскае возера, Назарэт, гара Сіён, гара Фавор, Канна Галілейская, Іоппія (Яффа), Кармільская гара. Пабачыць іх можна адно будучы ў Ізраілі і ўжо хіба тольکі пасьля наведеньня ўсіх Сьвятыў месцаў ў Іарданіі. Гэта дзеля таго, што Іарданія ня пушчала ніводнага чалавека з боку Ізраіля, незалежна ад таго, чыім грамадзянінам ён ёсьць. Сам факт перабываньня на тэрыторыі варожага ім народу разглядаўся як няпрыязны да арабаў ўчынак. Такіх людзей яны не дапушчалі да сябе і ім не выдавалі візы на права наведаньня Іарданіі. З старога гораду (арабскага) ў Новы Ерусалім (ізраільскі) можна было трапіць без звароту назад. Карацей, рух паломнікаў дазваляўся адно ў адным кірунку. Але калі паломнікі зьвязаныя агульным білетам і групавымі, згары аплочанымі, абслугоўваньнямі, гатэлямі і транспартам, прыходзілася адмаўляцца ад спакусы зьезьдзіць яшчэ і на сьвятыя мясьціны па другі бок дэмаркацыйнае дзяржаўнае мяжы па жывым целе адзінага сьвятога гораду. І ніто ня ўстане гарантаваць Вам жыцьця ў часе праходу так званой «Но мэн» зямлі — вузкай абязлюдненай зоны паміж двумя варожымі і ўзброенымі да зубоў табарамі.

Таму, калі на сьхіле дня паломнік сьхіляў свае вочы на заліты захадам сонца Ерусалім, які ўвесь непадзельна па абодва бакі штучнае мяжы аднолькава зіхацеў і пераліваўся ружаватай бялізною сваіх бязьлічных каменіцаў, міжвольна зрок шукаў і сярод іх вяданыя і гэтак блізкія сэрцу велічныя Храмы, душа падказвала шукаць і пазнаваць іх і па той бок сьвятога граду. А іх нямала можна адцеміць вокам і з узвышшаў арабскае часткі гораду. Аднолькава радуе сэрца бачаньне такіх хрысьціянскіх сьвятыняў, як цэрквы на так зв. Рускіх пабудовах, арабская пратэстанцкая царква, Дом Тайнай Вячэры і Манастыр на Сіёне, колькі іншых храмаў, вызначных для гісторыі хрысьціянства ў Палестыне.

Аднак, добра, што і арабы атрымалі сваю долю Ерусаліма, бо і ім гэты горад выдаецца сьвятым. Мусульмане кажуць, што Магамэт, дарма, што жыў і дзейнічаў пераважна ў Арабіі і Сырыі, сказаў некалі: «Ерусалім — самае сьвяшчэннае месца ў сьвеце». Паводле магамэтанскага паданьня, Магамэт маліўся на Божым камяні, дзе цяпер стаіць мячэць. Магамэтане вераць, што адгэтуль Магамэт узносіўся ў неба, пакінуўшы адбітак свае рукі на камні. Яны таксама паважаюць зямлю Морыа, падзяляючы з жыдамі веру, што менавіта туды паслаў Госпадзь Аўраама з сынам, як і веру ў Аўраамава ахвяра-прынашэньне.

Паводле ж талмудавых кнігаў, выгнаныя з раю першыя людзі пасьля колькісотгодняга вандраваньня і пакаяньня па волі Божай сустрэліся зноў на тым самым узвышшы, дзе пазьней быў закладзены Ерусалім. Калі Адам памёр, ён быў пахаваны сынам Сіфам на Сіёне. Ной, знайшоўшы размытыя косьці і чэрап прабацькі, пахаваў іх пад скалою на Лобным месьце, пазьнейшай Галгофе, месцы пакутаў абяцанага Збаўцы сьвету. Гэтак Ерусалім становіцца сьвятым месцам, паважаным трымя веравызнаньнямі, аднолькава дарагім месцам як для хрысьціянаў, гэтак і для жыдоў, і для магамэтанаў. Ужо на працягу многіх вякоў апошнія з фанатычнай заўзятасьцяй і нячуванай сілай бароняць яго супраць неаднаразовых наскокаў крыжаносцаў і іншых ваяўнічых і мірных абаронцаў Хрысьціянства і Іудзейства. Відаць, што ў тых Іудзейскіх узвышшах — Елеоне, Сіёне і Морыа — хаваецца нейкая асобная сіла прыцяганьня, што з непераадольнай сілай цягне да сябе розум, увагу, пачуцьці, душы і сэрцы многіх народаў сьвету. Ад часоў прабацькі Адама і да сёньняшняга дынамічнага, навукай і культурай пасунутага далёка ўперад, сьвету чалавек заўсёды сваімі самымі інтымнымі і сардэчнымі марамі цягнуўся і будзе цягнуцца да тых Божых пунктаў на зямной кулі. Нейкая незямная, няведамая сіла падказвае яму вечна імкнуцца да Сьвятога Гораду, як крыніцы духовага жыцьця, сьвятла праўды і ўзору дасканаласьці, як месца ачышчэньня і Збаўленьня. Ужо адно імя Эль-Кудс, або Эль-Шэрыф, як завуць гэты горад арабы і што азначае «сьвятасьць» або «сьвяцільня», выклікае ў кажнага араба асабліва ўмільнае і набожнае пачуцьце. Гэта для яго імя места, якое ягоныя вусны прамовяць як нешта асабліва правялебнае.

І запраўды, варта было Ўсеваладу Ціхановічу наведаць мячэць Омара на гары Морыа, каб пераканацца ў бязьмежнай сьвятасьці Ерусаліма і для магамэтанскага сэрца. Неаднаразова мінаючы месца Залатой Брамы,

кажны раз ягоны позірк затрымваўся на агромністым залатым купале гэтай арабскай Бажніцы. На яго цяперашнім месцы калісьці стаяў Храм Саламона. Крыжаносцы ператваралі мячэць Омара ў хрысьціянскую царкву, але пры першай нагодзе яна была зьвернутая магамэтанам, як Эль-Акса, г. зн. «аддаленая» ад Мэккі. Яна захоўвае памяць і аб месцах малітвы Давіда, Саламона і пpарокаў адмысловымі паказальнікамі на сьценах. Пасярэдзіне і ўзвышаецца камень Ўзвышэньня Магамэта. Залатая Брама для арабаў мае падобны нашаму сэнс: магамэтане вераць, што праз іх войдзе ў Сьвяты Горад ісламскі Пераможца.

На Ўсевалада зрабіла асаблівае ўражаньне велічнасьць трох колаў каленаў, пазалочаныя балюстрады, стаўпы і аркі каленаў у мармуровых аздобах і кафлявых узорах, з прыгожай мазаікай і барэльефамі. І варта было пабачыць малельшчыкаў на скрозь разасланых пэрсыцкіх дыванох, іх фанатычныя твары, цалкам перайначаныя малітвай ад самага нутра, каб адчуць, што тут, па суседзтву з Сьцяной Плачу, дзе шмат вякоў жыды аплаквалі былую моц і страчаную веліч, моцна ўкараніўся народ іншае веры, але які ў сваіх малітвах зьвяртаецца з просьбамі па сутнасьці да таго ж адзінага для ўсіх Бога. Нездарма, магаметане таксама паважаюць Ісуса Хрыста, вызнаюць яго адным з пpарокаў, але над усімі, ведама, ставяць свайго Магамэта, які, калі разабрацца, шмат пераняў з вучэньня Хрыста, асабліва што да добрых справаў, дапамогі бедным і ўстрыманьня ад празьмернасьці.

«І як добра, што кажнае раніцы муэдзін прыгадвае кажнаму масульманіну аб існаваньні ягоных абавязкаў перад Богам», — думаў Ўсевалад, знаходзячы выяў мудрасьці ў тым, што калі каторы зь іх яшчэ і сьпіць, дык рупны муэдзін падбае за яго і дапільнуе законнага часу, каб аддаць патрэбную даніну Божае пашаны.

«І калі недзе ў шырокім сьвеце начныя гулякі ў шынкох яшчэ ўздымаюць чарговыя чаркі шкоднай гары і пазяхаюць іхныя наперсьніцы ад дарэмнай стомы, — далей цягнуў свае развагі Ўсевалад пра сучасны сьвет, — дык у Сьвятым Горадзе дбайны манах ўжо адчыняе браму царкоўнага двара, уваходзіць у Храм, каб там за момант напоўніць ягоную прастору гукамі нямоўчнага псальма на патрэбу духовага голаду, каб высака ўзьняцца ў неба душою і разам з нябеснымі анёламі прасіць Госпада Бога, Сына Божага і Сьвятую Маці, каб даравалі грэшным людзям на зямлі адпушчэньне іхніх грахоў, перасьцераглі ад дурных учынкаў, далі сілаў і змогі несьці свой крыж далей, заслужыць на тым сьвеце Царства Божае. І ніякія атамовыя хітрыкі веку, ніякія спакусы прыцягальных сілаў грэшнага жыцьця не адцягнуць тога падзьвіжніка ў манашскай сутане ад абавязку тае Службы. Так адбываецца штодзённае дакрананьне да тае вечнасьці, якая адна толькі і ў стане ўратаваць нас ад поўнае духовае звыраднеласьці. Адна сьведамасьць гэтага ўжо ратуе чалавека, надае яму моцы ператрываць лягчэй бачаную скрозь распусту. Дзякую табе, Госпадзі, што ты захоўваеш такую скарбніцу высокага духу і крыніцу жыцьця Сьвятога Слова, якой нам уяўляецца Сьвяты Горад. Дзякуй табе, Вялікі Ерусаліме, нізкі паклон табе, места, дзе стаяла нага жывога Госпда, які жыў сярод нас, тварыў цуды, вучыў нас дабру, прыняў пакорліва пакуты і дзеля нас памёр, каб уваскроснуць! Ціхановіч казаў у голас і сам зьдзівіўся, што ён якраз у Сьвятым городзе цяпер.

---

*а. Аляксандар Надсон*

# „Малітвы пры сьвятой літургіі“ 1695 г.

*(Працяг)*[1]

Ґды зась херувімскую песнь спевати начнут, розмышляй хвалебное пред смертю и пред таемною вечерою Збавителево до Іерусалима на ослици в'ехане, от детей жидовских привитане, радость и спеване, которого на присте Панское заживали. А то розмышляючи, тую набожне читай молитву:

Молитва егда поют Херувимскую песнь. Ныне видяще душе моя честныя и преносимыя дары, отверзи вся помышленія суетная и воспой: Иже херувими тайно образуем, и животворящей Троици трисвятую песнь приносим, всяку ныне житейскую отвержем печаль; яко Царя всех подъемлющіи аггелскими невидимо дориносима чинми, Аллилуіа. Слава ти, Господи Іисусе Христе Боже наш, едине безсмертне человеколюбче. Слава ти от Отческих недр от небесныя славы пришедшу, и от святыя Девы вочеловечшуся, и сообразну бывшу телесе смиренія нніше-

1) Пачатак гл. Божым шляхам, № 5, 1970, ст. 7.

го, да нас сообразны славы твоея сотвориши. Слава ти вшедшему славно во Іерусалим на жребяти осли, и в нем раны и распятіе претерпети изволившему спасенія ради нашего. Дажд ныне, Хрысте, слезы очію моею, да очищу скверну беззаконій моих. И яко сподобил еси Іосифа со Никодимом пречистое твое тело сонемши с креста со страхом нести, тако и мене днесь видяща честныя и освященныя дары преносимыя, сподоби тебе седящему на престоле величествія на небесех со страхом поклонитися, и за вся смотренія и благоволенія твоя достойно благодарити, и воздыхаяй исповедатися тебе Спасу и Богу моему. Тыже, милостиве, сія пріим от мене, конец благ даруй ми и сподоби мя в день судный одесную тебе стати и слышати глас твой глаголющій: Приидете благословенными Отца моего, наследуйте уготованное вам царство. Аминь.

А ґды выходит священник з олтаря з божественными Дары, чинячи великую процесию и мовечи: «Всех вас православных христіан да помянет Господь Бог в царствіи своем», поклякнувши коленами на землю, розмышляй, яко жидовскіе дети едны рожчки палмовые и оливные, а другіе сукни свои постилали под ноги Христовы, и песни ему вдячные приносили, волаючи: «Осанна, благословен грядый во имя господне, Царь Ізраилев». Потым ґды юж входити мает священник в олтар, поклонися головою до земли, показуючи болшую над оных ку Христу Збавителю милость и покору: ты же не сукню, а ни рожчку, як они, але самого себе душею и телом под ноги Пану подстилаеш, который для тебе доброволне муки терпети и смерть



Млтвы,

А гды выходитъ Сщенникъ з олтаря з бжственными Дары, чинячи великую Процессію, и мовечи: Всехъ васъ православныхъ Хрістіанъ, да помянетъ Гдь Бгъ, в царствіи своемъ. Поклякнувши коленами на землю, розмышляй, яко жидовскіе дети едны Рожчки Палмовые и оливные а другіе сукни свои постилали подноги Хвы, и песни ему вдячные приносили, волаючи: Осанна блвенъ грядый во имя Гдне, Црь Ізлевъ. Потомъ гды юж входити маетъ Сщенникъ в олтаръ, поклонися головою до земли, показуючи болшую на оныхъ ку Хрту збавителю милость и покору, тыже не сукню, а ни рожчку якъ они, але самого себе душею и теломъ под ноги Пану подстилаешь, который для тебе доброволне муки терпети и смерт поднати до Ієрлима приехалъ. И тымъ наконецъ з скрухою сердечною тую мовъ Млтву.

Млтва,

при с. Литург.

Млтва, егда преносятся честныя Дары, поклонився до земля глаголи.

Тебе покланяюся Гди Іс Хе, и к тебе припадаяй молюся, разсыпь бремя греховъ моихъ. И яко разбойника оправдалъ еси единою возопивша тебе, помяни мя Гди во црствіи своемъ. И мене помяни Бже мой безпрестани вопіюща к тебе, и тогда части сподоби яко блгіи чловеколюбецъ, Аминь.

По вшествіи за Сщенника з Стыми дарами до олтара, мов тую Млтву.

Млтва по пренесеніи с: Даро.

Яко Гди Іс Хе, твоего ради страданія и ради Кртнаго распятія, и погребе-

нія,

*Поуўстаў 1695 г. Малітвы пры сьвятой літургіі.*

подняти до Ієрусалиму в'ехал. И туж набожне з скрухою сердечною тую мов молитву:

Молитва, егда преносятся честныя дары; поклонився до земли глаголи:

Тебе поклоняюся, Господи Іисусе Христе, и к тебе припадаяй молюся, разсып бремя грехов моих. И яко разбойника оправдал еси единою возопивша тебе: «Помяни мя, Господи, во царствіи своем», и мене помяни, Боже, безпрестани вопіюща тебе, и тояжде части сподоби, яко благій человеколюбец. Аминь.

По вейстю зась священника з святыми дарами до олтара, мов тую молитву:

Молитва по пренесеніи святых даров.

Владыко Господи Іисусе Христе, твоего ради страданія и ради крестнаго распятія и погребенія, не остави мене во гресех погибнути, зане зело грешен есм. Но по множеству щедрот твоих очисти вся беззаконія моя, и покрый мя своим заступленіем, без напасти преводити живот мой и радости святых причастника мя быти сподоби, яко благій человеколюбец. Аминь.

Ґды зась священник албо діакон мовит: «Двери, двери, премудростію вонмем», ведайжеся юж до вызнаня правды и отриманя ласки двери творыли; а отворилися не ким иншим, тылко самою Премудростію Божіею, самым предвечным предвечного Отца Сыном, Христом Спасителем, ґды не утративши того чим был, Бозства, принял зе крви Пречистой Панны, чым небыл, чловеченство, и мешкаючи з нами, як один з нас, старозаконную разсдерл завесу, и оттворил двери до познаня и вызнаня себе самого, яко Апостол в Деяніях, глава 14, мовит: «Бог отверзе языком двер ве-


На Геркованый Клейнот Ве: Их Мл: Панов з Красна Красинских.

З К
Б Т
К К
С С
П Г
Х С
С Ч

Кре знаменитем ест всегда побед(ы),
Сохраняли всех от всякой от беды.
Птеница в Перстеню не о фигуре,
Подкова к нему путь ... тое.
Сими Клейноты до Красински(х) ...
Имеши Светилам всегда зрися ясными.

Вельможным
Их Мл: П: Его Мл: Пану
Василию з Красна Красинскому.
Старосте Пропойскому, Хорунжему
Смоленскому.
И Его Мл: Пану Тимофею
з Красна Красинскому Старо-
сте Гомельскому Столникови
Чехановскому Нашым Всемилости-
вейшым Паном и Благодетелем.
Вторее иже Восток свы-
ше направил ны есть до
дому Ве: Вашей: воскло-
нитися Ве: благодетелие. Аще
убо и приходим не без при-
несения, видяще яко всяко
даяние благо. И тако мы от
сокровища срдца нашего не иное
что, точно гербоному перстеню
: : Ве:

*Поуўстаў 1695 г. Панэгірык на гэрб Красінскіх.*

ры». Затым: «Вонмем», то есть уважаймо, жеся юж премудростію небесною двери отворили, юж ся вызнане вери оголосило. И мы теды дверь сердец наших на приняте нам поданой для збавеня нашего правды отворимо, читаючи згодне: «Верую во единаго Бога», и прочая. А по пречитаню очекивай далших таемниц, стоячи со страхом, и мов тую молитву:

Молитва по исповеданіи веры.

Утверди мя, Господи, в сей истинней вере юже исповедах, и дажд ми вся долняя возненавидевши, горе к тебе имети сердце, и достойно хвалити всесвятое имя твое,Отца и Сына и Святаго Духа, ныне и присно и во веки веком. Аминь.

Ґды священник молчком молитвы отправует, розмышляй яко Пан молитвы з крвавым потом в огродку отправовал. А ґды мовит: «Победную песнь поюще, вопиюще, взывающе, и глаголюще», розмышляй як окрутные жолнере Пана хвалы, которому аггелы служат и з страхом его выхваляют, поймали, звязали и бючи през поток Кедровый и през розные улицы провадили; кривды до того, потвари, зелживости, якіе Пан на розных местцах и судах утерпел, то ест до Анны проважене и там поличковане, так теж до Каіафы вожене, по закрытом лицу поличковане, плеване и през всю ноч прикростей выряжене; як потом Пана скоро день до Пилата, до Ірода проважено, и от того знову до Пилата, который его казал бичовати, з острого терня венцем короновати, и з крестом на Голгофу провадити на укрыжоване. Притом зась розмышляй а читай набожне молитву тую:

Молитва внегда возглашает священник «Победную песнь». Собор святых аггел и архаггел со всеми небесными силами поет тя и глаголет: «Свят, свят, свят Господь Саваоф, исполнь небо и земля славы твоея; осанна во вышних, благословен грядый во имя Господне, осанна во вышних». Спаси мя иже во вышних царю, спаси мя, источниче освященія, от тебе бо вся тварь укрепляема ест. Тебе безчисленніи чинове небесніи со трепетом кланяющеся непрестанно трисвятую песнь поют. Тебе и аз недостойный седащему во свете неприступнем, его же ужасаются всяческая, молюся: ум мой просвети, сердце очисти и устне отверзи, яко да достойно возмогу тебе пети: «Свят, свят, свят еси, Господи, в безконечныя веки веком. Аминь».

А ґды мовит священник слова Христовы: «Пріимете и ядете, сіе ест тело мое» і прочая, ты, розмышляючы набожне, яко Пана и Избавителя на кресте нелитостиве жидове ростягнули и прибили, ведай же по вымовлению тых слов от священника, непонятым человекови способом хлеб над которымся то мовить, на дискосе положенный, юж не есть хлебом далей, але пренайдорожшим зостает телом Христовым. И туж зараз мов той тропар:

Аминь. Верую, Господи, и исповедую, яко ты еси Христос, Сын Бога живаго, пришедый в мир грешных спасти, от них же первый есм аз.

Ґды зась мовит священник слова Христовы: «Пійте от нея вси, сія ест кровь моя» и прочая, розмышляй, якося кровь святая з тела збавителевого выливала; ведай теж, же за тыми словы священническими вино в животворящую кров Сына Божого преистночается. И мов тую молитву:

Егда речет священник слова Христовы: «Пійте от нея вси, се бо ест кров моя». Вечери твоей тайней днесь, Сыне Божій, причастника мя пріими: не повем бо врагом тайны твоея, ни лобзанія ти дам яко Іюда, но яко разбойник исповедаяся вопію ти: «Помяни мя, Господи, во царствіи си».

Потом зараз, ґды священник на крест зложоными руками подносячи дискос и келих мовит: «Твоя от твоих тебе приносяще о всех и за вся», розмышляй яко Пан от окрутных оных жидовских катов з крестом был поднесенный, якося сам доброволне на олтарю крижовом для выбавеня народу людского з неволи діаволской оферовал Отцу небесному, якося и тепер от священника за грехи наши оферует. Мов тую молитву:

Егда речет священник: «Твоя от твоих тебе приносяще». Тебе поем, тебе благословим, тебе блягодарим, Господи, и молитимся, Боже наш. Дажд нам обрести благодать и милосердіе у тебе. Покажи твоя многія щедроты на нас, да не постыдимся на судищи твоем. Не отлучи нас стоянія онаго, одесную тебе стати, яко твоя держава во веки. Аминь.

А ґды священник мовит: «Изряднее о Пресвятой Чистой (или со Пресвятою Чистою)», и прочая, розмышляй яковыя болести мела Пречистая Панна, ґды под крестом стоячи на укрыжованого Сына своего смотрела, и просячи ей о причину и о молитвы до него, читай набожне тую молитву:

Молитва по выреченю тых слов: «Изряднее» и прочая. Богородице Дево радуйся, обрадованная Маріе, Господь с тобою, благословенна ты в женах и благословен

плод чрева твоего, яко родила еси Спаса душам нашим. Радуйся, едина Пречистая Мати единаго Содетеля Господа Бога и Спаса нашего Іисуса Христа, и буди ми ходатайца в день страшнаго суда, егда предстану пред нелицемерным судом, яко да огненнаго грознаго прещенія избавлюся молитвами твоими, едина благословенная.

Тут абысмося збавенных таин годне причастили, священник Духа Святаго призывает, мовячи: «И сотвори хлеб убо сей честное тело Христа твоего, а еже в чаши сей честную кров; якоже быти причащающимся нам во трезвеніе души, во отпущеніе грехов, абысмося не для осужденія, але для спасенія Спасителем посиляли. Ґды зась священник мовит: «Во первых помяни, Господи», и прочая, за належитым собе пастырем проси Бога, затым мов тую молитву:

Молитва по внегда речет священник: «Во первых помяни, Господи, имя рек».

Архіерею вечный Христе Боже наш, прилежно ти молюся, твоим вышним благословеніем архіерея нашего (имя рек) благослови, утверди, укрепи, миром оградии, и святой твоей церкви цела, здрава, честна, долгоденствующа и право правяща слово твоея истины даруй, от всех же сопротивленій видимых и невидимых врагов всегда милостивне избави.

Потом слухаючи пилно ектеніи от діакона албо от священника мовленой, розмышляй яко незбожные жидове и погане Збавителя на кресте висячого блюзнили и емуся наругали.

*(Далей будзе)*

---

### ПАПРАЎКА

У пачатку «Малітв пры сьвятой літургіі» ў мінулым нумары «*Божым Шляхам*» на 7-май старонцы закралася памылка. У першым радку тэксту замест «мов тую молитву» павінна быць «мов нэбожне тую молитву».

---

*Др. Тамаш Падзява*

## Жанчыны — настаўнікамі царквы

У нядзелю 27 верасьня г. г. першы раз за 20 стагодзьдзяў Каталіцкае Царквы, быў прызнаны тытул «НАСТАЎНІКА ЦАРКВЫ» — «Доктара Царквы» — жанчыне сьвятой Тарэсе з Авілі (у Гішпаніі). А ў наступную нядзелю, 4 кастрычніка, гэты самы тытул атрымала сьвятая Кацярына з Сіены (у Італіі). Пытаньне: Кім былі гэтыя жанчыны? І чаму Царква аказала ім такую вялізарную пашану?

### I

Дасюль на перашкодзе, каб прызнаць гэтым сьвятым тытул Настаўніка Царквы, стаяла толькі тое, што яны былі жанчынамі! Бо чалавецтва аніяк не магло зразумець, што жанчына ня ёсьць ані лепшая ані горшая ад мужчыны, а толькі інакшая — мае іншае на сьвеце заданьне. І, як чалавек і як Божае дзіця, жанчына нічым ад мужчыны ня розьніцца і таму можа і ў навуцы і ў сьвятасьці ня толькі дараўнаць, але і перавышаць мужчыну.

Жыцьцё сьв. Тарэсы з Авілі пацьвярджае гэтую праўду. А сьв. Кацярына дык ужо ў XIV стаг. зьдзівіла ўвесь сьвет сваей багаслоўскай ведай, хоць ня ўмела пісаць, а толькі дыктавала свае творы сьвятаром. Была Кацярына дачкой простага фарбавальшчыка, які меў усіх 25 дзяцей. Апошнімі прыйшлі на сьвет дзьве дачушкі-блізьнячкі — Яніна і Кацярына 25-га сакавіка 1347 году. Пэўна-ж не магло быць мовы аб тым, каб у XIV стаг. ўсіх гэтых дзяцей вучыць чытаць-пісаць, бо тагды яшчэ і гутаркі ня было аб роўнасьці мужчын і жанчын!

Зусім інакшае было палажэньне са сьв. Тарэсай: нарадзілася яна ў багатай гішпанскай сям'і ў гор. Авіля ў 1515 г. Атрымала старраннае ўзгадаваньне і, хоць мела слабое здароўе, вельмі добра вучылася і атрымала высокую адукацыю, а сваімі творамі заняла пачэснае месца сярод найвялікшых пісьменнікаў у гішпанскай літаратуры.

Яшчэ, як малая дзяўчынка, Тарэса пажадала стацца мучаніцай. Але падросшы зацікавілася сьветам, аднак аднойчы мела экстазу (захапленьне): паказалася ёй, што трапіла ў пекла і там убачыла месца прыгатаванае для яе за той флірт, які толькі яшчэ пачынаўся. Пад уплывам гэтага містычнага перажываньня Тарэса сарвала небясьпечную дружбу і ўступіла ў кляштар кармэлітанак, маючы 20 гадоў веку. Але тут убачыла, што кляштар

адыйшоў ад сваей дысцыпліны і патрабаваў рэформы, як і наагул усё царкоўнае жыцьцё таго часу. У XVI стаг. з прычыны запозьненых рэформаў пачалася царкоўная рэвалюцыя, званая рэфармацыяй. І вось толькі Трыдэнцкі Сабор ((1563—1581) ратаваў Царкву, а такжа выдатныя каталіцкія сьвятыя, якіх Бог паслаў Царкве — Карль Боромэо, Філіп Нэры, Ігнат Лёёля і Тарэса з Авілі

Сьв. Тарэса добра зразумела, якім павінна быць жыцьцё законнікаў, што займаюцца пераважна малітвай і пакутай, калі сьвецкае духавенства і законныя браты і сёстры дзейных кляштараў займаюцца справамі духовымі ўсяго чалавецтва. І зразумела Тарэса, што Бог паклікаў яе да таго, каб у агульнай абнове Царквы зрэфармаваць кармэліцкія кляштары. Будучы з натуры асобай растаропнай, Тарэса бачыла, што са старымі сёстрамі нельга нічога паважнага зьдзейсьніць, дык пачынае засновываць новыя манастыры і ўзгадовымаць новае пакаленьне законніцаў. Ад закладзінаў першага кляштару ў 1562 да сваей сьмерці ў 1582 адчыніла пару дзесяткаў кляштароў.

Гэтая праца адбывалася ў такіх цяжкіх абставінах і прасьледаваньні, што няма слоў, каб усё анісаць! І якраз яе даўнейшае жаданьне мучаніцтва знайшло цяпер магчымасьць споўніцца і Тарэса прыймала пакорна ўсялякую нагоду цярпець дзеля Божае хвалы так, што знайшла ў цярпеньні поўны сэнс жыцьця. Яе лёзунгам сталася: «Або цярпець, або памерці» і жыцьцё без цярпеньня ёй здавалася ненармальным. Дый патрапіла палучыць бязупынную малітву з падарожамі, з супрацай з людзьмі і з кіпучай арганізатарскай дзейнасьцяй.

Патрабуючы заўсёды помачы сьвятароў, Тарэса знайшла двух сьвятых кіраўнікоў для свайго сумленьня і аднаго з іх, маладога кармэліты, сьв. Яна ад Крыжа пракапала, што неабходна правесьці рэформу мужскіх кармэлітанскіх кляштароў. Пры слабым здароўі, і проста згараючы ў працы, Тарэса патрапіла яшчэ напісаць цэлы рад вельмі вартасных твораў, практычных і так глыбокага зьместу, што ўсе ўжо тады ставілі яе нараўні з Настаўнікамі Царквы. У прыгожай простай мове апісала сваю малітву ў «Аўтабіяграфіі», за якую кармэліты назвалі яе сваей Маткай. Другім вялікім творам была кніга «Шлях Дасканаласьці», у якім вучыла, як дайсьці да сьвятасьці найпрасьцейшым і даступным спосабам. І яшчэ «Унутраны Замак» — сем этапаў на Божым Шляху, у якіх Тарэса запісала свой містычны вопыт, каб з яго маглі карыстаць душы да вышэйшае сьвятасьці. І «Кніга Фундацыяў», дзе Тарэса апісала — спосабам цікавейшым ад рыцарскіх рамансаў — сваю працу, зьвязаную з заснаваньнем новых кляштараў. І вучыла сьвятароў, як кіраваць законніцамі. Такжа вялікую вартасьць маюць яе лісты, якія на жаль ня ўсе захаваліся.

## II.

Зусім інакш выглядае жыцьцёвы шлях сьв. Кацарыны з Сіены. І яе жыцьцё можна зразумець толькі ў сувязі з вялікай небасьпекай, у якой знайшлася Царква ў XIV стаг.

Ведама, што рымскія Папы заўсёды баранілі сваю незалежнасьць ад сьвецкае ўлады. Таму ім прыходзілася часам цэлымі стагодзьдзямі змагацца з гэтаю ўладай, напр., з Гогэнштаўфамі, што трывала больш ста гадоў. І не заўсёды такое змаганьне абывалася без вялікіх стратаў. Абараніўшыся ад нямецкіх імпэратараў, Папы падпалі пад францускі ўплыў, што вельмі некарысна адбілася на царкоўным жыцьці. У 1305 г. выбраны на Папу францускі кардынал, які прыбраў імя Клеманса V-га з прычыны таго, што ў Рыме і ў ва ўсей Італіі панавалі фэўдальныя непаладкі, перанёс апостальскую сталіцу ў гор. Авіньён у Францыі, дзе і аставаўся — ён сам і шэсьць ягоных наступнікаў, што трывала 72 гады (1305—1377).

У Авіньён была перанесена толькі сталіца, але ня тытул Рымскага Біскупа і ўсе каталікі лічылі Авіньёнскіх Папаў наступнікамі сьв. Пятра, а тымсамым і Рымскімі Біскупамі. Італьянскія гісторыкі называюць гэты час «Бабілёнскай няволяй», на падабенства, што жыды былі ў Бабілёнскай няволі якраз 70 гадоў!

1) Прабываючы у Авіньёне, Папы не маглі быць так свабоднымі, як у Рыме, і былі залежнымі ад францускіх каралёў.

2) У Рыме — дзеля адсутнасьці Папы — пачаліся розныя непаладкі, бунты, забойствы, рабункі ў сьвятынях і кляштарах і інш. Загады Папы ў Авіньёне ў Рыме ня прызнаваліся, што дрэнна ўплывала і на іншых верхаводаў духоўных і сьвецкіх.

3) Нямала біскупаў, за прыкладам Папы, таксама пакідалі свае сталіцы, што вельмі шкодна ўплывала на агульную дысцыпліну ў Царкве.

4) Доўгая адсутнасьць Папы ў Рыме прывяла да «Заходняй Схізмы», якая сталася найбольшым няшчасьцем для Царквы.

І вось на гэты цяжкі час Бог пасылае сваей Царкве помач у асобе простай, нявучонай, але сьвятой дзяўчыны — Кацярыны з гор. Сіены.

*(Далей будзе)*

*а. Фэлікс Журня*

# 40 мученікаў у Англіі

25 кастрычніка г.г. Папа Павал VI кананізаваў 40 ангельскіх мучанікаў — прызнаў іх сьвятымі: яны былі замучаны за веру ў 16 і 17 стаг. Адбылося гэта вельмі ўрачыста ў базыліцы сьв. Пятра ў Рыме пры шматлікім натоўпе людзей. З самой Брытаніі было блізка 10 тысяч учасьнікаў-каталікоў, а такжа прадстаўнікоў іншых веравызнаньняў. Прысутны быў прадстаўнік англіканскай царквы, высланы др. Рамсэям архіб. Кантэрбэры. Сьпевы і рэцытацыя розных малітваў праводзілася пераважна па ангельску — дзеля гасьцей з Англіі, якія чуліся ў Рыме, як у сябе. Гэтая падзея з аднаго боку вельмі радасная для Каталіцкае Царквы і для народаў Англіі, з якіх мучанікі паходзілі, а з другога надта цікавая і неспадзяваная.

*1) Веліч сьвятасьці.*

Бяз сумніву Апостольські Пасад, кананізуючы гэтых сьвятых, прычыніў вялікі гонар Англіі і Валіі, бо кожны сьвяты, а да таго яшчэ й мучанік — гэта вялізны дар Божы; бо кожны сьвяты — гэта герой перад Богам і людзьмі, найпрыгажэйшая кветка людзкога духа, які расьцьвітае з вялізарнай труднасьцяй. Сьвятасьць ёсьць найвышэйшым узлётам людзкой душы, якая ўжо на зямлі стыкаецца з Самым Богам і ясьнее блескам сьвятасьці Божай, быццам тая высокая гара, што ўзносіцца вышэй хмараў і купаецца ў сонечных праменьнях. Калі ў кожнай людзкой дасканаласьці можна бачыць нейкія заганы, дык сапраўдныя сьвятыя перамагаюць грэх і людзкія слабасьці да таго, што становяцца найбліжэйшымі да «абраза і Божага падабенства».

*2) Сьвятыя асабліва неабходныя цяперашняму сьвету!*

Але і сама кананізацыя адбылася ў вельмі цікавых абставінах, бо сталася гэта ў пару, калі людзі найменш вераць у сьвятасьць. Цяперашні сьвет так апусьціўся ў матэр'ялізм, што ня хоча ані слухаць, ані верыць і падняцца вышэй штодзённага жыцьця. А да кананізацыі патрэбныя цуды... Аднак цяперашкі чалавек пытаецца з дзівам: «Што такое цуд?» Як калісьці Пілат пытаўся ў Хрыста: «Што такое праўда?» І не чакаў адповедзі і выйшаў да народу...

А тымбольш у англіканскім асяродзьдзі клапатліва ўзьнікае справа кананізацыі каталіцкіх мучанікаў, якіх якраз і замучылі англіканскія ўлады — на радасьць сваіх вернікаў!.. Факт кананізацыі прыпамінае наагул усіх мучаных і прасьледаваных пратэстантамі і гэтых 40 выбраных з пасярод больш 2000 сапраўдных мучанікаў за веру ў Англіі. Ведама, што прыпамінаць цяпер тыя жорсткія падзеі нядаўнай гісторыі, справа далікатная і рызыкоўная і магла-бы ўзбудзіць абурэньне англіканаў, нават гнеў іх дый узнавіць даўнейшы антаганізм... Некаторыя людзі гэтага моцна баяліся, — тымбольш пры цяперашняй тэндэнцыі да экумэнізму.

Аднак-жа Каталіцкая Царква здолела перадалець гэтыя сумнівы і баязьні ці скрупулы. Напэўна, што найбольш прычыніліся да поўнага супакою самі мучанікі сваей інтэрвэнцыяй у небе. На дзіва, стварылася такая нармальна-здаровая атмасфэра, што пераважная частка грамадзтва каталіцкага і нат' пратэстанскага прызнала ўсю справу магчымай, а нават і патрэбнай (да 85% грамадзтва!). А прэса рэагавала зусім спакойна і нават прыхільна. Таксама і Унія Хрысьціянскіх Цэркваў — на пытаньне каталіцкай герархіі-адказала пазытыўна.

Як бачым, Каталіцкая Царква правяла ўсю справу паважна і асьцярожна, ня хочучы выклікаць аніякае анімозіі ні трыумфалізму, каб не папсаваць грамадзкае згоды і любові бліжніх. На шчасьце 40 мучанікаў аказаліся да таго папулярнымі, што ніхто не падняў аніякага супраціву ці крытыкі або закіду.

Адносна цудаў Катал. Царква паступіла шчыра і адкрыта: выбрала некалькі найбольш выдатных і паказала іх веручым і няверучым, запрашаючы ўсіх даказваць, калі маглі-бы, ці не сталася гэта сіламі натуральнымі.

Таксама і экумэністы згадзіліся на канонізацыю, хоць заўсёды бываюць вельмі асьцярожнымі. Сакратарыят Адзінства Царквы, да якога належаць і іншыя веравызнаньні, быў цэлы час у кантакце з Камітэтам Кананізацыйным і з ім супрацоўнічаў.

*3) Патрэба жывой веры і добрага прыкладу.*

І каталікі і іншыя веручыя прызналі, што ў цяперашнім часе існуе патрэба жывой веры, гераізму і добрага прыкладу. Матэр'ялізм так узмацняецца, што гаворыцца аб «сьмерці Бога» ў цяперашнім сьвеце.

Вось гэтыя 40 мучанікаў зьяўляюцца людзьмі поўнымі ахвярнасьці і жывой веры: яны ў гэтым часе выбраны і паказаны, як прыклад для ўзбуджэньня веры ў грамадзтве абыякавым і зматэр'ялізаваным.

Пры гэтым ўсе прыйшлі да прakананьня, што прыпамінаць даўнейшыя крыўды, ненавісьць, прасьлед і інш. грамадзкія грахі — ці са стараны пратэстантаў, ці наадварот са стараны ката-

лікоў (бо і гэта, на жаль і стыд, здаралася!) — скажам ясна — прыпамінаць трэба і прызнавацца неабходна... Такая шчырасьць выклікае адвагу і патрэбу публічнай пакуты за грахі продкаў і за свае цяперашнія, нашыя. Такая шчырасьць узаемна годзіць людзей і ўзбуджае пашану да людзкой годнасьці і справядлівасьці. Гэта ёсьць адзнака цяперашняй хрысьціянскай цывілізацыі, чаго дамагаецца Царква паводле закліку Хрыста: «Любіць ворагаў і добра тварыць ненавісьнікам...»

Якраз гэтага найбольш цяпер патрэбна, каб унікнуць 3-яе вайны і заглады чалавецтва.

*4) Сьвятыя вучаць экумэнізму.*

....Кананізацыя 40 мучанікаў, на шчасьце, не пашкодзіла справе экумэнізму.

Яны аддалі сваё жыцьцё за адзінства веры і за вольнасьць сумленьня. Яны не пагадзіліся з тым, каб ангельскі кароль быў галавой Царквы ў Вялікай Брытаніі. Былі аднак зусім лёяльнымі да караля, як галавы дзяржавы і народу, аддаючы «Богу, што Божае, а цару — царскае» і цярпелі аж да сьмерці толькі за веру, а не за «здраду», як ім закідвалі. Разумны экумэнізм палягае на тым, каб свабодна і сьведама паступаць у справах сумленьня — без ніякага націску, прымусу, няпраўды ці падману. І толькі вольны выбар веры і захаваньня яе — паводле сумленьня будзе падставай да адзінства Цэрквы Хрыстовай. І сьвятыя людзі, асабліва мучанікі за веру, зьяўляюцца сапраўдным натхненьнем, сьвятлом і сілай за адзінства Хрыстовай Царквы. Гэта-ж і ёсьць чысты экумэнізм: даць кожнаму чалавеку поўную волю служыць Госпаду Богу так, як ён разумее і жадае — паводле сумленьня, бяз крыўды другіх і нарушэньня праўды і справядлівасьці. Гэтак Дух Сьвяты давядзе разлучаных хрысьціян да адной веры і Царквы. А сьвятыя прычыняцца да сапраўднай талеранцыі і апостальства.

Тымчасам ня ўсюды і цяпер, у XX стаг., існуюць спрыяльныя ўмовы для рэлігійнай талеранцыі і для свабоды сумленьня. Пад дыктатурамі рэлігія бывае пад прымусам, абмежаваная або і цалкам прыгнечаная, як у дыктатуры атэістычнай. Такія ўлады заздросна трымаюць грамадзян у сваей сіле і часта ў тэрроры.

*

Закончым гэтыя заўвагі думкамі самога Папы Паўла VI. Рашаючы справу кананізацыі гэтых 40 мучанікаў, сказаў ён, што мы патрабуем прыкладу гэтых сьвятых асабліва цяпер і ня толькі таму, што хрысьціянская рэлігія ёсьць у розных краях паддана жорсткаму прасьледу, але таксама і з той прычыны, што матэр'ялізм штораз больш укараняецца і пагражае зьнішчэньнем спадчыны хрысьціянскае цывілізацыі. Гэтыя мучанікі із рознага грамадзкага стану, мужчыны і жанчыны, якія не захісталіся праліць кроў за вернасьць свайму сумленьню і волі Божай, зьяўляюцца і цяпер выдатнымі і шляхотнымі сьветачамі людзкой годнасьці і свабоды.

---

*Др. Т. Падзява*

# ПЛЯТОН

Выбраныя Дыялёгі — Сымпозыён. З грэцкага тэксту на беларускую мову пераклаў, папярэдзіў уводзінамі і агледзіў камэнтарамі ЯН ПЯТРОЎСКІ

(Накладам Беларускае Друкарні ў Злучаных Штатах Амэрыкі 1970)

Глыбокая ўдзячнасьць належыцца нашаму Суродзічу Яну Пятроўскаму за чарговы пераклад вельмі важных дыялёгаў ПЛЯТОНА. Выбар аказаўся ўдачны таму, што ня ўсе творы Плятона маюць роўную вартасьць. Некаторыя, як «Палітыка», наагул Плятону не ўдаліся і сяньня могуць цікавіць толькі гісторыкаў. Затое іншыя, да якіх належыць «Сымпозыён», маюць нямінаючую вартасьць. Італьянскі гуманіст Марсіліё Фічыно (1433—1499) зафундаваў у сваім доме ў Флёрэнцыі вечную лямпачку Плятону, як удзячнасьць за тое, што навучыў яго разумець і цаніць хрысьціянства. А якраз патрэба філязафічнае пропэдэўтыкі хрысьціянства сяньня адчуваецца яшчэ больш, чым калісьці. І шчырая падзяка Перакладчыку за стараннае прыгатаваньне такой паважнай і карыснай кніжкі: за камэнтары, індэкс і грэцка-беларускі слоўнік.

Аднак з прыкрасьцяй мусімо сказаць, што «Філязофія любові» яму не ўдалася. І не ўдалася таму, што за вялікі давер аказаў ён непаважным і няглыбокім, а нават баламутным аўтарам — крытыкам, як Гэрбэрт Гучына або Эдэт Гамільтон. Бо, прачытаўшы хоцьбы адзін артыкул В. С. Салаўёва аб любові ў Плятона, можна даведацца куды больш і цікавейшых рэчаў на гэтую тэму. А так, дык проста крыўдна за Камэнтатара, калі чытаем у яго такія «рэвэляцыі», як

«Плятонізм — гэта Захад» (абсалютна не праўдзіва!), або што дамінуючым элемэнтам заходняе цывілізацыі «зьяўляецца Лёгос» (баламутная фразэялёгія).

Калі ідзе аб хрысьціянства, то якраз толькі Ўсходняя ягоная частка да гэтае пары трымаецца Плятона. А на Захадзе найбольш паважная спроба сьв. Аўгустына абапёрці хрысьціянства на філязофіі Плятона ледзь датрывала да XIII стагодзьдзя, калі рашуча была адкінута вялікім Аквінатам (сьв. Тамашом з Аквіну), які прызнаў мэтафізыку Арыстотэля больш прыдатнай да гэтае мэты. Калі-ж ідзе наагул аб грэцкую думку, то Сакрат і Плятон займаюць у ёй толькі адно з шматлікіх пачэсных месцаў побач ня толькі з Анаксагорам, Пармэнідам і Арыстотэлям, але нараўні такжа з Эмпэдоклам, у якога знаходзім ужо ўсе элемэнты тэорыі Дарвіна, з матэр'ялістам Леукіпам і Дэмакрытам, ды вялікім Эпікурам, якога ўкраінскі хрысьціянскі філязоф XVII стаг. Рыгор Савіч Скаварада не баяўся сапастаўляць з . . . Хрыстом.

Няма сумніву, што грэцкая клясычная філязофія ляжыць у фундаменце Заходняе цывілізацыі. Аднак трэба ведаць, што ўжо у трэцім стаг. да нашай эры яна перастала ў Грэцыі існаваць, уступаючы месца гэтак званай філязофіі гэленістычнай, якая вытварылася *пад уплывам Усходу* і з гэтае пары Грэцыя ўжо ня ёсьць «Захад», але «Усход» і астаецца ім да нашых часаў, дзякуючы Ўсходняму хрысьціянству, сярод якога Плятон ёсьць дагэтуль у большай пашане — куды большай, чым на Захадзе! На Ўсходзе ягоная думка перажыла цікавае адраджэньне пад уплывам Плётына ў нэаплятонікаў.

У гэтых рэчах трэба дакладна ар'ентавацца, каб не траціць дарагога часу, які наш Суродзіч паказаў, што лепш патрапіць яго выкарыстаць, чаго яму шчыра пажадаем.

---

## *З царкоўнага жыцьця*

ВАТЫКАН: У кастрычніку г.г. Павал VI выслаў віншаваньні да Аб'еднаных Нацыяў з нагоды іхняга Юбілею 25 годзьдзя. Заручыў сваю падтрымку і супрацоўніцтва. Моцна падкрэсьліў неабходнасьць гэтае інстытуцыі для ўсяго сьвету. Праўда, ня ўсё яшчэ дзеецца паводле ейнае шляхотнае і разумнае Дэкларацыі аб правох чалавека. Ёсьць многа гвалту, прымусу, войнаў, тэрору і цярпеньняў, якія прычыняюцца нявінным людзям. Аднак, пакуль існуе гэтая інстытуцыя, ёсьць магчымасьць слабым гаварыць і жаліцца аб сваіх крыўдах ад сільнейшых і драпежных людзей. (Аднак дыктатуры патрапяць паўстрымаць усялякія жалі і скаргі жорсткім тэрорам, як у СССР!). Пакуль будзе магчымая сустрэча ўсіх народаў сьвету, дык ёсьць надзея на лепшую будучыню і на перамогу добрае волі. Горача заахвочваў Папа да далейшае працы, каб зьменшыць цярпеньні на сьвеце і ўзмацніць супакой, дабрабыт, перамагчы голад і правесьці ачыстку водаў і паветра. — Прыпомніў, што яшчэ, на жаль, многа існуе несправядлівасьці, праськледу рэлігіі і ламаньня талеранцыі.

### КАНСЭКРАЦЫЯ ДЗЕВЫ

У Катал. Царкве бачыцца наварот да некаторых старых і забытых абычаяў і звычаяў. Вось нядаўна выйшаў дакрэт Апостальскага Пасаду, які пазваляе сьвецкім жанчынам прыносіць шлюб дзявоцтва, каб мець больш магчымасьці пасьвяціць сябе добрым учынкам і малітве; гэты акт называецца «кансэкрацыяй». Пазваленьне на такі шлюб дае мясцовы біскуп, але толькі асобам, якія далі доказ чэснага і пабожнага жыцьця і падаюць надзею вытрываць да сьмерці. Царква ўводзіць гэтую практыку, каб паказаць цяперашняму сьвету прыгожасьць чыстага дзявочага жыцьця і заахвоціць тых, хто мае ад Бога такое пакліканьне.

### НОВЫ ПЕРАКЛАД БІБЛІІ НА АНГЕЛЬСКУЮ МОВУ

У Амэрыцы выйшла Біблія ў новым перакладзе з арыгінальных старых тэкстаў: працавала над ім 50 вучоных 25 гадоў! Памагалі і пратэстанскія спэцыялісты. Традыцыйныя словы, якія вышлі ў звычайнай мове з ужытку, заменены новымі.

### АБОРТ І ЭЎТАНАЗІЯ

У Вашынгтоне адбыўся Міжнародны Зьезд Фэдэрацыі Лекараў. Папа выслаў да іх пісьмо, у якім багаславіць іхнюю працу і заклікае да змаганьня з няшчаснай практыкай аборту і эўтаназіі, што ўсё больш уводзяцца на сьвеце. Адно і другое Папа назваў забойствам. Аборт — гэта забойства бяз згоды ненароджанага чалавека ў лоне маткі. А эўтаназія — забойства «з літасьці» старых ці хворых з іх згодай: тут, апрача забойства, прылучаецца грэх самабойства! І ў аніякім выпадку нельга нікому прычыняць другім сьмерць, бо Валадаром людзей ёсьць толькі Бог. Адносна эўтаназіі выясьняе Папа, што няма аба-

вязку — усялякай цаной прадаўжаць жыцьцё, калі чалавек становіцца толькі нясьведамай істотай: тады можна яго пакінуць на волю ягонага лёсу, аблягчаючы толькі цярпеньні.

## ЦЭНТРАЛЬНАЕ БЮРО Ў СПРАВЕ НАРКОТЫКАЎ

Гэтае Бюро заснаваў Папа пры сваім Сакратарыяце Стану. Ягоная мэта: мабілізаваць навуковыя пошукі аб шкоднасьці наркотыкаў і абароне супраць іх. Ужо няраз Папа зьвяртаўся да дзяржаўных мужоў у гэтай справе, між іншымі гаварыў аб гэтым з прэз. Ніксанам. Пошасьць наркотыкаў, якія атручваюць моладзь і дзяцей, становіцца вялізарным няшчасьцем цяперашняга сьвету.

Пры іншай нагодзе Папа зьвяртаецца ў гэтай справе да італьянскіх дактароў: Дайце нам, душпастырам, бацькам, настаўнікам, сацыялёгам, палітыкам указаньні і парады адносна тэтых таёмных справаў, якімі ёсьць наркотыкі, якія, як сьмяротная зараза, расходзяцца па цэлым сьвеце пры помачы таёмнага гандлю. Вы павінны нам сказаць, якую магутную атракцыю яны маюць у сабе і які робяць уплыў на псыхічнае і біялягічнае здароўе, пакуль гэта ня ёсьць запозна. Сьвятары разам з лекарамі маюць абавязак ратаваць людзей, якія сталіся ахвярай подлых гандляроў наркотыкамі.

## ПРАГРАМА НА СЫНОД БІСКУПАЎ У 1971 ГОДЗЕ

Гэты Сынод будзе звычайны, якія адбываюцца што два гады. Сусьветны Сынод Біскупаў Катал. Царквы займецца справамі сьвятарства, роляй сьвятара ў грамадзтве, дапушчэньнем сьветскіх людзей да некаторых функцыяў, духовым жыцьцём сьвятара і вартасьцяй сьвятарскага цэлібату.

## ПРЭЗЫДЭНТ НІКСОН У ПАЎЛА VI

28 верасьня г. г. Візыта трывала $2^1/_2$ гадзіны. У часе размовы Папа прыпомніў, што Амэрыка ў вялікай ступені ёсьць адказная за супакой на сьвеце і прасіў аб помач народам спозьненым у разьвіцьці эканамічным і тэхнічным. Прэзыдэнт падзякаваў за сардэчнае прыняцьце, абяцаў ад сябе і ад усяго народу рабіць, што магчыма для дабра слабых народаў і для супакою на сьвеце. Выявіў, што вельмі цэніць маральнае супрацоўніцтва Папы ў справах сучаснага сьвету. Пасьля у прамове да амэрыканскіх клерыкаў-студэнтаў Прэз. Ніксон сказаў, што Папа рэпрэзэнтуе духовую сілу, якая парушае адзінкі і народы. — Верце мне, казаў, што сьвет патрабуе духовай сілы, якую вы пойдзеце ў сьвет прапагаваць.

## ЖАНЧЫНЫ — ДОКТАРАМІ ЦАРКВЫ

27 верасьня і 4 кастрычніка г. г. першы раз, як існуе Царква, Папа аб'явіў дзьве сьвятыя жанчыны д о к т а р а м Царквы: Тарэсу з Авілі (Гішпанія) з 16 стаг. і Кацярыну з Сіены (Італія) з 14 стаг. Да гэтага часу ня прызнавалі такога тытулу жанчынам, бо сьв. Павал ап. сказаў: — Жанчыны хай маўчаць (у Царкве) — І. Кар. 14, 34. І ў лісьце да Тым. казаў: — А навучаць жанчыне не пазваляю! — І, 2, 12. Тытул Доктара Царквы даецца тым, што адзначаліся вялікай сьвятасьцяй і навукай у справах веры. Прызнаньне гэтага тытулу жанчынам ёсьць, можна сказаць, каронай эманцыпацыі жанчын у Катал. Царкве. Яны цяпер знайшліся ў пачэсным ліку такіх філяраў веры, як сьв. Аўгустын, Геранім, Атаназы, Ян Хрызастом, Тамаш з Аквіну і інш.

## ДЗЕНЬ МІСІЯЎ І МІСІЯНЭРАЎ

18 кастрычніка было па сьвятынях чытанае пасланьне Папы: прыпамінае, што кожны хрысьціянін павінен быць місіянэрам, бо ніхто ня можа быць абыякавым для справы збаўленьня чалавека. Усе людзі маюць пільны абавязак пазнаваць і прыняць Эвангелле — Добрую Навіну! Цяпер хрысьціянства яшчэ больш вяжацца з культурай людзтва, дык патрэба больш працаўнікоў на ніве Хрыстовай і больш помачы матар'яльнай. Мэтай сьвятой місіі ёсьць стварыць з усіх народаў адну Божую сям'ю, адроджаную ласкай сьв. Хросту і ажыўленую верай у Бога — Айца ўсіх людзей, зьвязаных духам справядлівасьці і ўзаемнай любоўю.

Цяпер налічваецца на цэлым сьвеце больш 600 мільёнаў каталікоў, 270 мільёнаў пратэстантаў і паўтараста мільёнаў праваслаўных; значыць, усіх разам хрысьціянаў звыш аднаго мільярда людзей! А тымчасам нехрысьціян ёсьць 2 мільярды і 300 мільёнаў!

У Катал. Царкве ўсіх сьвятароў 433 тысячы, законных братоў 277 тысяч, законьніц больш мільёну. У Эўропе на аднаго сьвятара выпадае крыху больш як 100 вернікаў, а ў Паўдзённай Амэрыцы — 10 000!

Калі мы ўзважым, што яшчэ на хрысьціянства чакае 2 мільярды 300 мільёнаў людзей на сьвеце, дык нас павінны вельмі затрывожыць словы Хрыстовыя: — Жніво вялікае, а жанцоў мала, дык прасіце Гаспадара жніва, каб паслаў больш работнікаў на сваё поле. (Мат. 9, 38).

## ПЕРАГАВОРЫ ВАТЫКАНУ З ЧЭХАСЛАВАЦЫЯЙ

Вядуцца яны ўжо даўжэйшы час, пакуль што яшчэ ў форме вымены ўступнае інфармацыі. З боку Ватыкану выступае арцыб. Казаролі, які нядаўна закончыў памысныя размовы з Югаславіяй.

### ЦЯЖКОЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ КАТАЛ. ЦАРКВЫ Ў БРАЗЫЛІІ

Француская газ. «Ле Монд» апублікавала некаторыя дэталі з размовы, якую меў іхні прадстаўнік з важнейшымі людзьмі ў Бразыліі. Знаходзіцца там 80 мільёнаў каталікоў і 13 тысяч сьвятароў. Некаторыя біскупы, асабліва на поўначы краю, маюць да працы вельмі мала сьвятароў. Прыклад: У аднэй дыяцэзіі на 300 тысяч вернікаў ёсьць толькі 32 сьвятары і яны ня ўсе могуць працаваць у душпастырстве, бо ёсьць дужа старыя, нездаровыя дый некаторыя заняты ў школах, арганізацыях і інш. Да гэтага трэба ведаць, што пануе там вельмі значны анальфабэтызм і да 50% дзяцей памірае... Так што значны працэнт работнікаў аддаецца паганскім практыкам імпартаваным з Азіі і Афрыкі.

### КАМБОДЖА

Прыйшла вайна і сюды, а з ёй і вялікія цяжкасьці для Царквы. Тут 90% каталікоў — гэта вьетнамцы — да 600 тысяч. Многа іх там цяпер выбілі і шмат уцякло, так што сьвятыні астаюцца пустыя. Душпастырская праца пераключаецца на камбажанцаў, аднак іх яшчэ вельмі мала і да Эвангелля зусім ня прыгатаваныя.

### НЭГРЫ ДАМАГАЮЦЦА СВАІХ БІСКУПАЎ

АМЭРЫКА: На краёвым Зьезьдзе ў Вашынгтоне каталіцкіх прадстаўнікоў — духоўных і сьветскіх — нэгры вельмі рашуча выступілі з жаданьнем зраўнаваць іх у царкоўным жыцьці! Дамагаліся 4-х сваіх біскупаў, якія павінны быць з іх выбару, а не з намінацыі. Але па праўдзе надта нялёгка там стварыць для нэграў асобную царкоўную адміністрацыю, калі яны рассеяны па цэлым вялізным краю...

### ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ КАТАЛІКОЎ У ІЗРАІЛІ

Арцыбіскуп арабскай дыяцэзіі Акра напісаў адкрытае пісьмо да прем'ера Гольды Мэер, у якім жаліцца на дыскрымінацыю арабскіх каталікоў у Ізраілі. Гэтыя каталікі сьціснены з двух бакоў: музулманы ўважаюць іх за здраднікаў свайго народу, а жыды лічаць іх за арабскіх калябарантаў. Арцыбіскуп стараецца, як могучы, пагадзіць спрэчныя інтарэсы жыдоў і арабаў.

### ПЛЯНЫ АДНОСНА ЕРУСАЛІМУ

Падчас сваей візытацыі ў Аўстраліі, каталіцкі Патрыярх Антыёхіі, Махімос V Гакім выказаў такую думку, каб разьвязаць справу Ерусаліму — зрабіць яго незалежным горадам ад уладаў суседзкіх і варожых — «Горадам Супакою» і аддаць пад адміністрацыю тых веравызнаньняў, якія маюць у ім свае сьвятыя месцы — хрысьціян, жыдоў і магамэтанаў. Падобны праект падаваў перш Папа Павал VI. Тымчасам Аб'едналыя Нацыі падаюць плян, каб аддаць гэты горад пад міжнародную Адміністрацыю. Аднак фактычна цяпер Ізраіль трымае Ерусалім дый нікому яго ўступаць ня думае, а вайна жыдоўска-арабская трывае...

---

## *З нашае мінуўшчыны*

# ІІ-ая вайна — рэлігійнае жыцьцё

Хутка пасьля заняцьця бальшавікамі Вільні прыбыў сюды япіскап Сергій, які аўтаматычна ад імя Масквы абняў духоўную ўладу над усімі праваслаўнымі. Сергій прамовіў пры першым выступленьні ў Троіцкім саборы, стукаючы посахам у падлогу: «Москва ідёт, радуйтесь, православные!» і далей вёў камуністычную прапаганду. Ніхто нідзе не пратэставаў, хоць усе чулі, што прышоў воўк у авечай скуры. Духоўных арыштавалі і вывезьлі ў нявольнічныя лягеры.

З каталікамі было горш: ня мелі ў Маскве сваіх падробленых.

Каталіцкі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, ведамы ў Вільні са сваей варожасьці да беларусаў, быў прымушаны прабываць у Коўне, куды яго завезьлі летувісы. А ў Вільні быў толькі летувіскі біскуп-вікары Рэйніс, які да беларусаў адносіўся прыхільна і дазволіў мець сваю парахвію пры касьцеле сьв. Міхала, сьвятыні пабудаванай нашым вялікім канцлерам Львом Сапегам, дзе па сяньняшні дзень ягонае цела спачывае. Набажэнствы з беларускімі песьнямі адбываліся рэгулярна.

Прышлі немцы. Беларусы пачалі актывізаваць сваё рэлігійнае жыцьцё. Праваслаўныя сталі абмяркоўваць і прапагаваць Аўтакефальную Царкву; а каталікі імкнуліся адсэпаравацца ад польскага касьцёла і яго герархіі. У той момант намінальным зьверхнікам каталікоў на Усходняй Беларусі быў Біскуп Сьлёсканс, латыш, які пражываў у Дзьвінску.

Паміма нашых стараньняў у Вільні, Менску і Бэрліне, нямецкія ўлады не далі яму права пераехаць у Менск і праводзіць якуюсь рэлігійную працу. Тут аднак ініцыятыву ўзялі ў свае рукі беларускія ксяндзы патрыёты. Перш зьявіліся ў Менску кс. др. Ст. Глякоўскі, кс. Рыбалтоўскі і кс. Малец і, пасьля упорыстых торгаў з нем-

цамі, адваявалі чырвоны касьцёл, які быў тэатрам і адзін галоўны касьцёл, які быў складам за бальшавіцкіх часоў. У сталіцы Беларусі пашла нармальная беларуская праца. Даведаўся аднак аб гэтым архіяп. Ялбжыкоўскі і ня толькі адклікаў з Менску кс. Глякоўскага, Рыбалтоўскага і Мальца, але нават забараніў ім за «непаслушнасьць» прыступаць да аўтара. Але каталіцкую акцыю далей павялі Кс. В. Гадлеўскі і літоўскі вайсковы ксёндз. Паўгоду пасьля Глякоўскі і Малец не ўсталі пры адыграньні гітлераўскага гымну ў тэатры, за што былі арыштаваныя, высланыя ў лягер Бухэнвальд, дзе згінулі ў фабрыцы ад ангельскіх налётаў.

Сярод многіх каталіцкіх духоўнікаў высоўваюцца тут постаці законнікаў марыянаў — кс. Юры Кашыра і кс. Антон Ляшчэвіч: яны дасталі ад летувісаў дазвол ехаць у Друю ў свой манастыр, але пасколькі былі ў Друі духоўныя польскія, дык Кашыра і Ляшчэвіч пераехалі за Дзьвіну ў мястэчка Расіцу, дзе аднавілі парахвію. Летам 1942 году пры нямецка-латыскай «пацыфікацыі» ўсе жыхары Расіцы былі загнаныя ў касьцёл, закіданыя гранатамі і спаленыя. Так загінуў ад рук латыскіх нацыстаў мой калега, спакойны, добры пастыр, матэматык, Юры Кашыра і ягоны сябра Антон Ляшчэвіч. Гэтак гінулі ад нямецка-латыскіх «пацыфікатараў» тысячы беларусаў на беларуска латыскім пагранічы!

Праваслаўныя ў меру абставінаў пачалі аднаўляць Беларускую Праваслаўную Аўтакефальную Царкву. Душой гэтых пачынаньняў быў сьвятар Дэрынг і шмат іншых. Першы наехаў аўтам на бальшавіцкую міну і згінуў на месцы. Пасьля прылучыліся да гэтае працы япіскап Філафей, яп. Апанас і архіепіскап Панцелеймон, хоць апошні ня надта ахвотна адрываўся ад Масквы. Нямецкія ўлады толькі ў канцы 1943 г. дазволілі на шырэйшую працу праваслаўнага рэлігійнага жыцьця на Беларусі. Ад нямецкай рукі за намовай правакатараў згінуў у Альбэртыне Экзарх Грэка-Каталіцкае Царквы А. Неманцэвіч.

(З рукапісу др. Я. Малецкага «Пад знакам Пагоні»).

## З лістоў у рэдакцыю

ЧЫКАГО: У нашым Чыкаго ёсьць нашая сьвятыня Хрыстуса Збавіцеля (Хрыста-Спаса), а пры ёй нашая Беларуская парахвія. У гэтую сьвятыню могуць прыходзіць усе беларусы бяз розьніцы абрадаў памаліцца і духова адпачыць пасьля працавітага тыдня. — (УВАГА: Ня толькі «могуць», але і сапраўды прыходзяць і прыяжджаюць, некаторыя нават здалёку, робячы вялікі круг цыркулярнымі дарогамі, каб абмінуць цэнтр і гушчу гораду).

Некаторыя спэцыяльна прыбываюць, каб памаліцца — прасіць у Бога ласкі ў сваей мове, якой Стварыцель нас абдарыў. А вернікі нашае парахвіі перакананы, што ў чужой — мала зразумелай-мове нельга сапраўды маліцца шчыра і сардэчна; а нават бадай было-бы абразай Божай, калі хто не карыстае сваей мовай, зьвяртаючыся да Бога. Калі хто не карыстае сваей мовай, то як ён яе шануе? Ці Стварыцель ня любіць нашай мовы, ці не разумее яе, або ею брыдзіцца? . . .

(Напр.: Каб хто ўважаў, што нельга маліцца ў звычайнай чыстай і прызвычайнай адзежы, а трэба выпрашываць у іншых людзей адзежыну модную ці бліскучую, або пазычаць такую, ці нават украсьці і ўжо тады хадзіў-бы на набажэнства . . . Значыць, падобна і з чужой мовай у малітве!).

Успомненую нашую парахвію абслужываюць Айцы Янка і Уладзімер Тарасэвічы. Дасюль — ужо гадоў з дзесяць — усе набажэнствы праводзяцца ў мове беларускай у сьвятыні, тут у нас, але толькі паводле ўсходняга абраду. Тымчасам ёсьць тут значная група каталікоў заходняга абраду, дык паўстае думка, каб ад пары да пары ладзіць набажэнства ўласна і паводле заходняга абраду, але ў мове беларускай! Таму вернікі зьвярнуліся да Паважнага Айца Францішка Чарняўскага, выдаўца і рэдактара часапісу «Сяўбіт», каб прыяжджаў і адпраўляў набажэнства паводле нашае просьбы: ён абслугоўвае парахвію каля Нью Ёрку і якраз цяпер абходзіў свой слаўны юбілей: 50-ці годзьдзе сьвятарства. Аб гэтым пісалася ў № 5-ым «Божым Шляхам» і паўтараць ня будзем.

Як у самой сьвятыні, так і на банкеце крэслы не асталіся пустыя. І найлепшы прамоўца быў сам Юбілят: ён расказваў вельмі цікава падзеі пройдзенага шляху.

Не памылюся сказаць, што як падчас набажэнства ў сьвятыні ўсё адбылося вельмі ўрачыста і пабожна, так і банкет прайшоў прыемна і паважна. *Янка Чарнэцкі*

*

МАСАЧУЗЭТ: Часапіс «Божым Шляхам» № 4 за ліпень і жнівень мы атрымалі 9-га кастрычніка. Як падаў аўтар прадмовы др. Падзява, каб чытачы самі ацанілі гэты нумар, я прачытаў сам адзін і чыталі агулам. Адзін з прысутных, каторы чытае Сьвятое Пісьмо, прызнаў, што гэты нумар цэніцца прыгажосьцяй ягонага зьме-

сту, але і тым, што тут узятыя словы Сьв. Пісьма, упрыгожаныя вершаванай формай і нічога не аднята, ні дабаўлена, а толькі тое, што Сам Хрыстос казаў. Усе прысутныя адабрылі гэты нумар! Вам, дарагі Айцец, пажадалі ўсяго найлепшага ў Вашых 80 гадох, каб Бог даў здароўя і сілы працаваць далей. — Калі кніга «Кітай—Сібір—Масква» выйдзе ў ангельскай мове, прашу выслаць мне 3 кн., бо на дзьве маю ўжо запрос, а адну хачу аддаць у Нарвудскую бібл. Грошы за кнігі будуць высланы разам з падпіскай на «Божы Шл.» за наступны год.

*Н. Л-скі*

*

## КАЛЯДЫ

НЬЮ ЁРК: Сьвята Божага Нараджэньня — КАЛЯДЫ — гэта час сапраўднае радасьці — прыбыцьцё Божага Сына на зямлю. Споўнілася 1970 гадоў ад гэтага здарэньня і факт Нараджэньня Ісуса Хрыста стаўся пачаткам новае эры, хрысьціянскае, якой прымушаны трымацца ўсе народы сьвету, нават няхрысьціянскія і нават атэісты.

У тым часе, калі невялікая колькасьць багачоў трымала ўладу на сьвеце і ўціскала вялізныя масы людзей у няволніцтве, прыйшоў-нарадзіўся Збавіцель сьвету, якому сьпявалі анёлы: «Хвала Богу на вышынах, а на зямлі мір людзям добрай волі!» У гэтых словах анельскае песьні-гімну выражаны характар Збавіцеля і мэта, дзеля чаго Ён прыйшоў на сьвет.

*

Як-жа мы на Браслаўшчыне, у нашай «малой Беларусі», абходзілі Каляды? Усе нашыя людзі, асабліва дзеці, чакалі Калядаў журботна і нецярпліва: ужо, калі закрыстыян прывозіў аплаткі, здавалася, што пачынаем Сьвята. Звычай аплаткаў у нас старадаўны і вельмі мілы: гэта быў знак сямейнай і нават суседзкай згоды, паяднаньня і любові: дзелячыся аплаткам, цалаваліся, выказвалі адзін аднаму самыя шчырыя пажаданьні — аж нярэдка паказваліся сьлёзы радасьці і шчасьця!

Не! Нішто ня зможа замяніць хрысьціянскае радасьці, — ні стогодзьдзе нараджэньня Леніна, ні 50-ці годзьдзе рэвалюцыі, ці эміграцыі.

Дык пераломімся аплаткам, звычаям нашых бацькоў, (гэта каталіцкі звычай у Заходняй Беларусі). Цяпер, праўда, мы рассыпаны па ўсім сьвеце — і ў вялізных гарадох, часта на берагох вялізных акіянаў, вазёраў ці рэк-рэчак, або ў жудасных капальнях, ці ў аўстралійскіх прэрыях пры гадоўлі авечак, ці па шумных фабрыках Ангельшчыны ці Нямеччыны, аднак усюды мы астаёмся самі сабой — суродзічамі-беларусамі!

Няхай-жа засьвеціць нам ясная бэтлеемская зорка, якая прывяла і пастухоў і магаў да Дзіцятка-Хрыста. І няхай усюды на сапраўдную згоду засьвецяць ялінкі — праўдзівыя ці хацябы і штучныя — з папяровымі кветкамі, электрычнымі сьвечкамі — так на пяскох пустыняў, як і на сьнежных прасторах Сібіру, дзе аказаліся закінутыя беларусы! Каб усюды засьпявалі калядныя песьні, якія сьпявалі калісьці па нашых хатах . . .

У начную ціш  
Ляціць голас ўзвыш:  
Пастушкі устаньце,  
Вунь на неба гляньце!  
Што за яснасьц, за праменьні,  
Анёлы ў белым адзеньні  
Радасна пяюць!  
— Абвяшчаем вам  
Бог радзіўся там:  
У Бэтлеем пасьпяшайце  
Збаўцу прывітайце!  
Ляжыць ў жлобе Ён на сене,  
У пялёнках, без адзеньня —  
Ад зімна дрыжыць . . .

*

Вітаю ўсю Рэдакцыю і жадаю ўсяго найлепшага — з Новым Годам!

*Б. Прытыцкі*

---

АЎСТРАЛІЯ — МЭЛЬБУРН: Апошні № «Божым Шляхам» 3 (120), прачытаў з цікавасьцю і прыемнасьцю. Кітайскую легенду прачытаў дзецям, ці дакладней кажучы — чыталі мы разам), а даволі шырака на гэтую тэму гутарылі. Так, праблема шчасьця скамплікаваная і аб шчасьці столькі ўжо напісана і мусіць больш яшчэ напішацца! Ды ці праз гэта мы будзем да яго бліжэй? . .

А ў нас ёсьць унучка! Хадзілі мы з ёй па закупы. Такая вялікая асоба, — 4 гады! а трэ' было ў той бок несьці на руках. Затое назад бегла сама і шчабятала цэлы час. Гаворым з ёю па ангельску і па беларуску: няхай прывыкае . . Можа што і астаннецца ў памяці? Яна — вельмі цікавы тып. Але якія дзеці ня цікавыя, асабліва для бацькоў і дзядоў? . .

Калі ў Вас восень і хутка наляціць зіма, то ў нас — вясна ў поўным цьвеце і былі дні — цудоўныя!

Нядаўна здарыўся ў нас выпадак (Вы пэўна чулі?), заваліласа частка нова-будаванага маста, забіваючы 33 асобы і ранячы 18. Шмат было шуму і плачу, але памаленьку ўсё вертаецца да нормы, а за нейкі час і зусім забудзецца, як усё ў жыцьці . . .

Пры нагодзе ветліва прашу прыслаць кніжку «Князь і Лапаць»: ёсьць на яе ахвотнік.

Найшчырэйшыя пажаданьні і прывітаньні ўсім суродзічам! *М. Н.*

*К. Чабатар*

# „Ахвота горш няволі“

«Бітаму ня сыпіцца». Ня гледзячы на тое, што ў апошнюю суботу меў прыгоду з «атрутнай» рыбай, у наступную пятніцу, павячэраўшы, я зноў пачаў рыхтавацца на рыбацтва. Пачаўся з жонкай дыялёг:

— Зноў зьбіраешся! Можа яшчэ якое ліха схопіш? Гэта табе ня Нёман, дзе ўся рыба — людзкая, а тут... Не шкадуеш мяне, дык пашкадуй хоць дзетак. Завалок нас на канец сьвету і мазгі табе памяшаліся.

А дачушка: — Тата, вазьмі і мяне з сабою!

— Добра, кажу ёй: — Толькі-ж едзем раненька; а ты... Каб ня прышлося вады падліваць у ложак?

Значыць, усталі мы рана. На небе сьветла-зелянкавым водблескам загараецца паўдзённы крыж: гэта найлепшая пара дня, бо яшчэ ўсё сьпіць — і горад і порт і вада. Адно толькі дзесь далёка пачала свой першы рогат птушка-кукабара: яна абвяшчае пачатак дня. Зноў пачнецца зьмена цемнаты сьвятлом — мітусьні, клопатаў, інтарэсаў, працы і гульні. Нарэшце мы бачым, як падымаецца вялічэзны дыск сонца, які прадказвае дужа сьпякотны дзень.

Даходзім да мора, а сонца ўзвышаецца паволі. Цішыня плыве над горадам. Паветра насычана водарам эўкаліптавага лісьця, марской водарасьці і солі. А мне на душы становіцца і сумна і радасна.

Вялізарны тут заліў, над якім разлажыўся амфітэатрам горад Альбаны і ўладзіўся порт: цяпер паверхня гладкая і сьвеціцца, як гіганцкае люстэрка.

Пры беразе надыбалі мы на памост, уладжаны на дзьвюх жалезных бочках. Селі мы, адапхнуліся ражном ня так далёка і прывязаліся да таго-ж ражна, які ўткнулі ў дно, дый пачалі вудзіць. Спачатку рыба дзюбала неахвотна, а пасьля пачала скубаць жывей; тады, ведама, што й рыбак упадае ў азарт. Ужо, здавалася, што й досыць было-бы, але «ахвота горш няволі»! Ня так патрэба той рыбы, як прыемнасьць пры лоўлі...

Аднак мы забыліся пра сонца! А яно дапякае не па нашаму, бо мы не на Нёмане! А я-ж паехаў у кароткіх нагавіцах і не маю дзе схаваць сваіх ножак! Ну, дачушка ўхітрылася: села, як курыца на яйках, ногі — пад сябе і ўкрыла іх сукенкаю, дык ёй нічога, а мне... Апушчу ногі ў ваду, ледзянеюць; як выйму, сонца жарыць! Дый, як я іх мачыў дый сушыў, дык толькі памагаў іх апякаць.. Аж нарэшце ня змог далей трываць: галёнкі пачырванелі, як ракі ў гаршку — ледзь дапхаўся да берагу і дадыбаў да хаты!

А дома ня мог знайсьці месца, дзе і як іх палажыць. За ноч на галёнках вырасьлі гарбузы. На шчасьце сусед давёз мяне ў шпіталь. І той самы доктар, што ратаваў мяне ад «атручанай» рыбкі, цяпер, прапароў мае гарбузы, а з іх пацякла жаўтаватая жыжа; а сьмяючыся пытаў:

— Ну, як? ці будзеш рыбачыць далей?..

— Здаецца, што так, бо «ахвота горш няволі!» Гэты раз пралежаў я зноў да суботы...

## РАЧОК

Лета. Спакойнае аўстралійскае лета: блакітнае бескрайнае мора, распаленае да белага сонца, — спакой для душы, адпачынак для цела. Цудоўна! Ляжаш на пяску, схаваеш галаву пад парасонам і ў салодкім паўсьне блукаеш думкамі па далёкай Бацькаўшчыне...

І я так часта праводзіў бязжурботна вольны ад працы дзень. Узіраючыся на неба, я вельмі далёка заяжджаў у прасторы думкамі з надзеяй адпачыць. Але як паехаў лавіць рачкоў, дык выйшла нешта зусім другое. А гэтых аўстралійскіх рачкоў называюць тут «пронсы». Як гэта будзе па беларуску, запытайцеся сп. Янку Станкевіча, доктара і прафэсара!..

Скажу шчыра, што ў мяне ня было ніякага пацягу да гэтакага спорту. Адмаўляўся я тым, што пасьля вады ў мяне ломіць усе косьці. Але мая баба і госьці, што прыехалі з Пэрту, перамаглі і амаль што сілаю завалаклі ў аўта. Я-ж да таго ня толькі не лавіў, а нат' і не бачыў тых пронсаў! Ну, і пабачыў! — Гэта маленькі рачок падобны да нашага, беларускага, як дзіцячы пальчык да мушчынскага пальца.

Жонка пабегла купіць тое-сёе і запрасіла суседа «спэца», які пасьля другой шклянкі віна казаў: — Едзь! Жыцімеш, не забудзеш такое прыемнасьці дый нічога іншага не захочаш лавіць. А якія яны смачныя, калі адразу з вару ды ў губу! Язык трэба трымаць, каб не праглынуць разам...

А жонка кажа: — Вось дык нагода: такой ня бывала! — Дзякуй, што прыехалі. Я — кажа — паставіла ў аўта тры вядры на тых пронсаў; а вашая Марыся навучыць мяне, як іх варыць: будзем мець на сьнеданьне, на абед і на вячэру. Ашчаднасьць: добрых колькі даляраў...

А што прапусьціла на закупы прыбораў да лоўлі (восем даляраў — гэта ня ў лік!). І з усяго бачыце, дарагія Чытачы, як-жа я мог адмовіцца? ...пасьлей пальеш воцтам, а яшчэ лепш — сокам

Дый Марыся авансам вучыла, як варыць: — з цытрыны, каб я жыла — пальчыкі лізаць!

Паехалі. У дарозе я праканаўся, што еду ў асысьце самых знаўцаў; а — па іхняму — лоўля мералася ня кілаграмамі. а мяшкамі. Я-ж, ведама, толькі сароміўся ў параўнаньні з імі. О, колькі часу я змарнаваў, не знаючы такога спорту!

Аж пад вечар мы прыехалі на месца лоўлі. Паказалася вялізная затока, а ў даждлівую пагоду сюды ўпадае рэчка. І ўздоўж берагу стаяла аўта каля аўта: гэта былі такія самыя «пронсаўцы», як і мы. Усе чакалі ночы. Хто не бачыў, не паверыць. І ўсе былі праканаты, што — многа ці мала, але з вядро наловіць кожны!

Мітусьня, як на кірмашу ці ў муравейніку. Распраўляюць сеткі, правяраюць ліхтары. А як толькі сцямнела, затока зігацела чароўнымі агеньчыкамі, як-бы сьветлячкамі на сьвятога Яна.

Мне знаўца паказаў адпаведнае месца і навучыў, як трымаць сетку і як цягнуць, каб пронсы не сасьлізнуліся. Як прымацаваць вядро, а на галаве — ліхтар, як робяць у шахтах вугляколы.

*

Ня буду вылічаць, што я ў гэтую ноч пацярпеў: па костачкі ўлезшы ў глей, па пахі — ў ваду, цягаў я гэтую, тройчы праклятую, сетку па марскім дне. Што некалькі хвілін вытрасалі мы з сеткі ўсялякіх сьлімакоў, водарасьці, пляшкі, манеркі з пад піва і ўсялякую іншую нечысьць, што ляжала на дне затокі.

Дзеці з берагу крычалі: — Што-што, злявіў? — Дзеда ўнукі злавілі! — адказаў я. Здавалася, што завыю ваўком — такая горыч мяне апанавала.

Пасадзілі мяне на беразе, а жонка пачала свае літаніі: — Я-ж казала табе — ўзуй гумовыя боты, дык-жа, калода трухлявая, ты ніколі мяне не паслухаеш!

А мне здавалася, што завыў-бы на ўвесь сьвет! Сьцягнулі з мяне мокрую кашулю, закруцілі ёю раненую ступню і аднесьлі мяне ў аўта. Позна ўначы мяне змучанага целам і з разьбітым духам прывезьлі дамоў. У цемры ў куточку я, змардаваны начыста, пачуў, як знаўца-спэц гаманіў зноў:

— Я знаю, мае вы спадары, яшчэ адно такое месца, дзе ловяць пронсаў сапраўды цэлымі хмарамі. Калі-бы толькі туды ні прыехаў, гэтулькі наловіш, што хоць назад іх выкідай! У наступную суботу едзем. Маеце ахвоту, дык калі ласка!

Але мая жонка ўжо маўчала, хіба была расчараваная, што ня будзем мець пронсаў ні на сьнеданьне, ані на абед, ні на вячэру? А яны такія смачныя . . . І аднак-жа я прызнаў адно іхняе прароцтва, што такой лоўлі я ніколі ўжо не забудуся! . .

---

# Сучасныя жарты

### У ПРЫТУЛКУ ДЛЯ ГЛУХІХ:

І-ы: — Выбачце, суседзе, што я падслухаў, як ты крычаў свой сакрэт Янковічу!

ІІ-гі: — Ды я яму крычаў зусім памяркоўна, а ён мне кажа: — Што ты шэпчаш?

ІІІ-ці: — Мы ўсе чулі, як вы абодвы крычалі.

ІІ-гі: — Дык хоць нікому больш не гаварыце, што чулі, бо мой сакрэт вельмі вялікі . . .

### У ПРЫТУЛКУ ДЛЯ СЬЛЯПЫХ:

І-ы: Выбачай! Ці я моцна цябе стукнуў?

ІІ-гі: — Моцна-ня-моцна, але добра спусьціў мне юшку з носу! . .

І-ы: — Бо трэба ўважаць! Усе тут бачуць, што я раблю гімнастыку і абыходзяць мяне здалёку, а ты . . . сам нарваўся.

ІІ-гі: — Ну, нічога! Бывае і са мною; аднойчы я сам, які я ўжо ўважлівы, а і то, задумаўшыся, зьеў чужы абед . . .

ІІІ-ці: — А, вось чаму дырэктар мяне без абеду пакінуў, хоць я ніколі, нікому, нічога-ніякага!

УВАГА: Падобна дзеіцца ў палітыцы, калі Усход і Захад гамоняць і робяць адно, а другі бок разумее начай, або і наадварот.

### ГЕНІЯЛЬНЫ ВЫНАХОД

— Вось гэта геніяльнае вынаходзтва! — гукнуў Янка.

— А што такое? — пытаўся Сымон.

ЯНКА: — Саветы запусьцілі ракету, якая закралася на месяц і выкрала стуль месячыны, як бульбы, поўны мяшок! Значыць, пабілі амэрыканцаў на сто процант!

СЫМОН: — Праўда! Ўсе дзівяцца і нават я сам.

ЯНКА: — Мала таго! Мне людзі казалі, што цяпер ужо гатова другая савецкая ракета, што будзе выкрадаць у Амэрыцы з банкаў даляры, у Францыі — золата, у Нямеччыне — маркі, у Японіі . . . , у Швайцарыі . . . *В. А.*

### УСХОД—ЗАХАД

Калі нам «Старшы Брат» працягнуў руку ў 1939, дык мы пасьля амаль не працягнулі ног — так нам удалося! . . Ну, я зараз паступіў у Баранавічах на службу на чыгунцы.

Я-ж вельмі цікаўскі, а мне людзі балбаталі, што цягнікі так гамоняць, як людзі. Дай я ўслу-

хацца! Аж і праўда: З Захаду на Ўсход цягнік гаманіў: «Сала-масла, сала-масла! Груз-груз!..» А з Усходу на Захад: «Сьпічкі-сьпічкі, сьпічкі-сьпічкі!..» Дый апошнія вагоны: «Пуста-пуста, пуста-пуста!..»

*К. Ч.*

З КАТАХІЗМУ

— Каму больш патрэбна вечнасьць — мужчынам ці жанчынам?

— Ведама, што жанчынам!

— Чаму?

— Бо на гэтым сьвеце жанчыны аніяк ня могуць скончыць гутаркі — даўней ля студні, а цяпер на тратуары — усё нехта памяшае! То трэ' пільна бегчы на работу, то суседка ня мае часу, то дзеці ці што... А ў вечнасьці можна выбраць людзей да гутаркі, добрае месца да сакрэтаў, а часу хопіць навекі!..

*Ігрэк*

# Новая кніга аб Фр. Скарыне

Штораз больш пішуць пра Фр. Скарыну і ўсё шырэйшая слава разыходзіцца пра яго, як пра першага беларускага друкара сярод усходніх славянскіх народаў і вялікага, на сусьветну меру, гуманіста. Нядаўна (1969) выдавецтва «Навука і Тэхніка» ў Менску выпусьціла кніжку «Прадмовы і Пасьляслоўі», якія Фр. Скарына напісаў да паасобных кніг Біблії. Кніжка выдана ў даволі прыгожым афармленьні. І таксама заслуга беларускіх лінгвістаў, што яны сабралі ў адну кніжку гэтыя жамчужыны старой беларускай мовы, якія былі рассеены па цэлай Скарынаўскай Біблії. Тэкст падалі яны ў сучаснай транскрыпцыі, што дае магчымасьць чытаць шырэйшым сфэрам.

Як вядома, Фр. Скарына ў перакладзе Сьв. Пісьма на беларускую, яму сучасную, мову, якую ён называў «Рускай», трымаўся ў многіх месцах стараславянскай мовы, асабліва, дзе яна была яшчэ тады зразумелай. Але прадмовы і пасьляслоўі пісаў зусім незалежна ад славянскай. Таму «Прадмовы» зьяўляюцца вельмі вартасным дакумантам нашае мовы з пачатку 16-га стаг., якая ўжо тады асягнула вышэйшы ўзровень разьвіцьця, чым іншыя славянскія мовы, як польская, украінская ці расейская.

Каб хоць крыху ўявіць, як беларуская пісьмовая мова з гэнай пары выглядала, хай нам паслужыць невялікі вынятак з прадмовы Фр. Скарыны да Псалтыра:

«Псалом ест всея Цэркві единый глас, сьвята украшаець. Псалом всякую противность, еже ест Бога радзі, усьміраець. Псалом жесткое серце мякчыць і сьлёзы з него, якобы со історчніка, ізводзіць. Псалом ест ангельская песьнь, духовны тем'ян, вкупе (разам) тело пленіем веселіць, а душу вучыць».

І яшчэ з Пасьляслоўя да Псалтыра: «Скончалася Псалтыр сія з Божееюю помошчью, повіленіем і працею ізбранного мужа в лекарскіх навуках доктора Францiска, Скорынiна сына с Полоцка, у старым месьце Празском лета по Божеем народжэнію тысешчнаго пяцьсотого і семогодзесець, (1517), месеца аугуста, дня шестаго».

Прадмовы і Пасьляслоўі Фр. Скарыны ёсьць таксама яркім доказам яго высокай і ўсебаковай адукацыі, як на тыя часы. Ён атрымаў тытул Доктара лекарскіх навук на ўнівэрсытэце ў Падуі. Апрача мэдычнай веды ён выяўляе вялікую знаёмасьць філязофіі, Сьв. Пісьма, прыродазнаўства і грамадзкага жыцьця. У поўным значэньні гэтага слова ён быў сапраўдным гуманістам сваей эпохі. Чытаючы Прадмовы можна нямала пазнаць духовы сьвет Скарыны, яго рэлігійныя пачуцьці і грамадзкія праканаоньні. Відаць, што ён быў сапраўдным дэмакратам: дамагаўся для ўсіх роўнага права, любіў просты народ, як называў, «посполіты люд», служыў яму і пераклаў для яго Сьв. Пісьмо на мову яму зразумелую, у якой

# Сэрца

На згон зімы сасьніў я страшны сон:
Чужое сэрца мне перасадзілі.
Нібы ў старой званіцы новы звон,
Яно гудзе у першародйай сіле.
Хоць сам сябе нанова вывучай,
Цяпер жыву ў трывожным неспакоі —
Абраза,
Самазабыцьцё,
Адчай —
Што берагчы ў ім — радасьць ці тугу,
Ці знала сэрца, што гэта такое?
Ці дум зазімкавых сухое лісьце?
Ці я яму даверыцца магу,
Параіцца, як са сваім калісьці?
Ці сэрца, як жаўрук у вышыні,
Заходзіцца ад шчасьця ў сінім дыме,
Ці, быццам вязень, б'ецца дзень пры дні,
Закрачанае скабамі маімі?
Нямы дакор, як вастрыё кап'я.
Пытаюся ў свайго сумленьня строга:
Хто дасьць адказ,
Ці маю права я
Бясхмарна жыць за некага дургога?
Паволі прывыкаю да ўсяго,
Да сэрца новага прывык ужо я.
Ды кожны міг баюся за яго,
Бо гэта ж сэрца не маё — чужое.

*Рыгор Барадулін*

сам Скарына, як гамоніць аб сабе, з провіду Божага нарадзіўся . . .

Таксама нельга не ўбачыць вялізарнай працаздольнасьці і працавітасьці яго. Проста не магчыма ўявіць, як адзін чалавек у такім кароткім часе пераклаў усё Сьв. Пісьмо і напісаў да яго гэтулькі «словаў» — камэнтараў-прадмоваў! Дый упрыгожыў гравюрамі і ілюстрацыямі, якія мастацтвам і арыгінальнасьцю ня ўступаюць заходнім Біблям тае пары. А друкарская праца трывала ў гадах 1517—1519 у Празе Чэскай і ў 1525 у Вільні, дзе выдаў, апрача некаторых біблійных кніг і Зборнік малітваў, наз. «Малая Падарожная Кніжыца». Двойчы мусіў мантаваць друкарні, а ягоная Біблія была на доўгі час узорам і прыкладам для іншых славянскіх народаў.

На вялікі жаль, ня ўсе кнігі Скарынаўскае Бібліі захаваліся да нашае пары: з 46 кніг Старога Запавету асталіся толькі 24, рассеяныя па розных загранічных бібліятэках і музэях, асабліва ў Ленінградзе, Маскве і Кіяве. Крыху ёсьць у Менску і Вільні.

Успомненая кніга падае блізка 50 Прадмоваў і Пасьляслоўяў. Таксама залучае рэпрадукцыю гравюраў ды ілюстрацыяў. Гэтым нагадваецца сама Біблія Скарыны. Выдаўцы залучылі яшчэ два артыкулы: адзін аб спадчыне Скарыны — дае нямала інфармацыяў аб тым, што сталася з друкамі гэтае Бібліі і інш. твораў. Другі артыкул аб самым Скарыне, на жаль, папсаваны атэістычнай прапагандай. Аўтар наіўна даказвае, што вялікі чалавек, «доктар» быў прапагатарам граматыкі, рэторыкі, арытмэтыкі і інш., а ня меў у працы мэтаў рэлігійных, значыць, быў ужо блізкім да поўнага атэізму . . .

Тымчасам Фр. Скарына быў чалавекам глыбока рэлігійным. Дый гэта не памяншала ягонай мудрасьці і вучонасьці. Разумеў Скарына лепш, чым аўтар артыкулу, значэньне Сьв. Пісьма для нашых людзей таго часу.

Якое значэньне мае Сьв. Пісьмо для чалавека і дзеля чаго ён пераклаў Біблію, Скарына сам выясьняе ў Прадмове: «Тыя-ж усе кнігі (Сьв. Пісьма) і кожнае з ніх токмо (толькі) едзіную реч в собе замыка, яко закон жывота вечного даступіці учыць».

---

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

А-а-а, малое, пакуль будзе другое!

Абаранак зьясі, пакуль навокал абыдзеш. (Аб таўсьцюхох).

Баба з калёс, калёсы як чорт панёс.

Баба качаргу мяняла, тры дні гуляла.

Багат, калі нікому ня вінават.

Багаты брат беднаму брату не рад.

Балазе таму жыць, чыя бабка ўмее варажыць.

Баліць нага, ды ня ведаю каторая.

Бацькі дзецям неба прыхілілі-б, каб здужалі.

Бачыш, дружа, як гарую: з аднае карчмы ў другую.

Баязьліваму адзін пень за тры ваўкі здаўся.

Баязьліўца куля і ў акопе страчае, а сьмелага і на акопе мінае.

Без гаспадара гумно плача, а без гаспадыні — хата.

# Паштовая скрынка

А. С. — Таронта: Вам ліст адпісаны. Дзякуем за $ 5.00.

Я. П. — Сыракузы, Амэрыка. За кнігу «Плятон» вельмі дзякуем! Рэцэнзія ў нр. 6 «Б. Ш.».

Я. К. — Нью-Ёрк: Выбачце, што спозьнена квітуем атрыманае! Ад: П. М. — $ 7.00, А. М. — 5.00, А. О-Р. — 5.00, В. К. — 3.00, А. Ш. — 5.00. Усім ім дзякуем! І папярэднія ад І. З. — $ 5.00 і ад А. А., І. К., І. Г. — па $ 3.00.

Н. Ж. — Чыкага: Ліст і $ 10.00 атрыманыя. Дзякуем. У Польшчу нам пасылаць «Б. Ш.» ня ўдаецца, але за адрас дзякуем.

Я. А. / О. О. ад С. Д. атрыманыя і адрас зьменены. Дзякуем.

О. Л. — Лёндан: £ 1.0.0. атрыманы, такжа ад М—к £ 1.0.0.

М. Б. — Манчэстэр: Ад Вас заўсёды прысыланыя па £ 1.10.0, як падпіска, прыходзяць акуратна. Дзякуем!

М. Я. — Монтрэаль: $ 4.00 атрыманы на 1970 год. Дзякуем!

Ф. К. — Нью Зэелянд: Вашыя два лісты атрыманыя і £ 3.0.0 такжа; справа выпаўненая, пав. жаданьня.

М. Ф. — Сао Пауле, Бразылія: Лісты атрыманыя, усё выпаўнена. Дзякуем.

Я. Ч. — Чыкага: Усе лісты атрыманыя і $ 5.00, дзякуем і прашу падзякаваць Сп-ні В. М. за весткі.

Дзякуем: І. Ч. — £ 0.4.0.; а такжа Г. С. за $ 10.00 і А. Б. з Чыкага за $ 40.00 з падпіскі. Сп. А. К. за £ 2.0.0. Дый з Аўстраліі: П. Т. — $ 3.00, А. К. — 3.00, Г. С. — 3.15, М. С. — 2.10 і А. Г. — 2.10.

З Лёндану Я. Ц. — £ 2.0.0., з Нью Брунсвік С. Г. — 2.0.0., з Францыі Н. З. — 3.0.0.

І ўсім Спадаром, якім мы дасюль не паквітавалі і не падзякавалі — генеральна ДЗЯКУЕМ!

У прышласьці будзем акуратна квітаваць усё прысланае. І просім надалей нас помніць і ласкава ўспамагаць у працы для агульнага дабра і славы нашае Бацькаўшчыны!

РЭДАКЦЫЯ

# Зварот да Паважаных Чытачоў

РЭДАКЦЫЯ І АДМІНІСТРАЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

віншуе

ДАРАГІХ ЧЫТАЧОЎ І СУРОДЗІЧАЎ-БЕЛАРУСАЎ
З ВЯЛІКІМ СЬВЯТАМ ХРЫСТОВАГА РАЖСТВА

і жадае

ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1971 ГОДУ!
КАБ БОГ ДАЎ СВАБОДУ НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!

---

ЗЬМЕСТ


КАЛЯДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ БІСКУПА Ч. СІПОВІЧА . . . . 1
а. Я. Г.: Анёлы ў Бэтлееме (верш) . . . . . . . . . . 2
Уладзімер Глыбінны: На сьвятой Зямлі . . . . . . . 3
Ал. Надсон: Малітвы пры сьвятой Літургіі . . . . . . 5
Др. Тамаш Падзява: Жанчыны — настаўнікамі Царквы . . . 9
а. Ф. Журня: 40 мучанікаў у Англіі . . . . . . . . 11
Др. Т. Падзява: ПЛЯТОН — выбраныя сымпозыён (рэцэнзія) . . 12
З царкоўнага жыцьця . . . . . . . . . . . . . . 13
Др. Я. Малецкі: З нашае мінуўшчыны . . . . . . . . . 15
З лістоў у рэдакцыю, «Каляды» — Б. Прытыцкі . . . . . 16
К. Чабатар: «Ахвота горш няволі» (апавяданьне) . . . . . 18
Сучасныя жарты . . . . . . . . . . . . . . . . 19
а. Ф. К.: Новая кніга аб Фр. Скарыне . . . . . . . . 20
Р. Б.: Сэрца (верш) . . . . . . . . . . . . . . . 20
Рэдакцыя: Зварот да Паважаных Чытачоў . . . . . . . 24


---

Прыпамінаем аднавіць падпіску на 1971 Год і прысылаць ахвяры на «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» і на БІБЛІЯТЭКУ ў Лёндане.

Рэдактар Я. Г.

---

Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14